1 красавіка 2016 | № 13 (478)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144
9 772218 214401 10013

Вашы гаражы можа змыць — вы і ратуйце
стар. 6–7

4 ЗАПАВЕТ НІЛА ГІЛЕВІЧА: «БУДЗЕМ АПТЫМІСТАМІ...»

Я надзей не трачу. Я веру. Вельмі бывае цяжкі настрой ад усёй брыдоты, якую бачыш, чуеш. Але, як у народзе кажуць, перажылі зіму, перажывём і лета...



5 БЕЛАРУСЬ – ГЭТА НЕ МІНСК

«Цяпер вы ўбачылі сапраўдную Беларусь, зазірнулі за вылізаны фасад. Мінск — гэта ўсяго толькі намаляваны ачаг у жалю вартай каморцы Таты Карла. І за тым намаляваным ачагом уваход не ў тэатр, а ў пакой жахаў».

9 СТРАСЦІ ПА «ГУМАРЫНЕ»

У змене фармату славутай адэскай «Гумарыны» шмат хто ва Украіне бачыць палітычны падтэкст...




10 НАІЎНЫЯ ПАТРЫЁТЫ

Многія маладыя жыхары Заходняй Беларусі з-за юначай адкрытасці, упартасці і самаўпэўненасці нават не спрабавалі хаваць сваіх варожых адносін да савецкай улады

# Непатрэбны міф яднання

## Беларусы прызвычаіліся жыць у незалежнай краіне — ім і без «агульных дзяржаў» добра



Сяргей ПУЛЬША

Нас напаткала чарговае нібыта свята: 2 красавіка адзначаецца Дзень адзінства народаў Беларусі і Расіі. У гэты дзень 20 гадоў таму была падпісаная Дамова аб супольнасці Беларусі і Расіі. А яшчэ праз год, 2 красавіка 1997 года, была падпісана дамова пра стварэнне Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі.

Планавалася, што Саюзная дзяржава будзе паўнавартасным заменнікам СССР — са сваёй адзінай валютай, з агульным гербам, гімнам, сцягам, з адной Канстытуцыяй і агульным кіраўніцтвам. Кажуць, Лукашэнка, усяляк прасоўваючы ідэю Саюзнай дзяржавы, меціў на месца Барыса Ельцына, то бок на саюзную прэзідэнцкую пасаду.

Гэтым марам не было наканавана спраўдзіцца — да кіраўніцтва Расіяй прыйшлі больш прагматычныя і менш настальгічна настроеныя «піцерскія». І ўсе крэатыўныя ініцыятывы па яднанні «двух братэрскіх народаў» здуліся. Найперш, з-за эканомікі.

Пуцін не пагадзіўся ствараць эмісійны цэнтр, кантроль за якім меў бы Аляксандр Лукашэнка. Прыкладна тое ж адбылося з Канстытуцыяй Саюзнай дзяржавы — праца над гэтым дакументам была спыненая яшчэ ў 2013 годзе. Аляксандр Рыгоравіч, у сваю чаргу, адмовіўся ад ідэі праводзіць рэферэндум па аб'яднанні Расіі і Беларусі, і раптам пачаў казаць пра каштоўнасць незалежнасці сінявокай.

Калі зараз узгадваць Саюзную дзяржаву, што першае прыходзіць на розум? Найперш, гэта, канешне, розныя пасяджэнні дэпутатаў «саюзнага парламента» і «тэт-а-тэтныя» перамовы кіраўнікоў Расіі і Беларусі ў гэтых варунках. СД стала проста чарговай нагодай для таго, каб правадыры Расіі і Беларусі часцей сустракаліся.

Па-другое, гэта навуковыя праекты: такія, як суперкамп'ютар «Скіф», беларуская касмічная праграма, спадарожнік «БелКА». Але і тут не без кур'ёзаў. У 2008 годзе адбыўся запуск касмічнага апарата «Юбілейны» з рухавіком «без выкіду рэактыўнай масы». У космасе ён працаваць адмовіўся, а ў прэсе атрымаў мянушку «гравіцапа». Па дадзеных расійскага акадэміка Эдуарда Круглякова, фінансаванне «эксперыменту стагоддзя» ішло з бюджэту Саюзнай дзяржавы.

Падаецца, неблагія вынікі дала праграма «БелРасТрансген», — вывядзенне трансгенавых козаў, якія б давалі малако з лактаферынам — лекавым бялком чалавека. Аднак наўгародскае прадпрыемства, якое павінна было выпускаць «цудадзейнае малако», спыніла вытворчасць: з-за таго, што ніхто не ведае, хто можа валодаць вынікамі агульнай праграмы і як размяркоўваць прыбытак.

Дырэктар «Трансгенбанка» Інстытута біялогіі гена Расійскай акадэміі навук Ігар Гольдман заявіў: «На жаль, ні ў праграмах Саюзнай дзяржавы, ні ў праграмах Мінадукнавукі няма ўказання, хто павінен укараняць гэта і хто павінен за гэта адказваць. А адказваць ёсць за што, таму што Падліковая палата Расіі праверыла нас. Мы на ўсе патрацілі больш за 20 мільёнаў долараў, мы зрабілі добры прадукт, і Падліковая палата кажа: трэба ўкараняць, але яна сама не ведае, хто і як павінен гэта рабіць».

Карацей, Саюзная дзяржава зараз — гэта ўжо не палітычны праект, а сродак выбіць фінансаванне для расійскіх і беларускіх навуковых інстытутаў. Ну, улічваючы, як у нас фінансуецца навука — і тое хлеб.




Але ці можна лічыць гэты дзень святам? І каму наогул патрэбна такая саюзная дзяржава сёння?

Па дадзеных апытання Незалежнага інстытута сацыяльных і палітычных даследаванняў (НІСЭПД, Літва) за сакавік гэтага года, на пытанне, «Калі б сёння праходзіў рэферэндум па аб'яднанні Беларусі і Расіі, як бы вы прагаласавалі», 52,4% рэспандэнтаў зазначылі, што былі б супраць такога аб'яднання.

Праўда, калі б паўстаў выбар паміж уступленнем Беларусі ў Расію альбо ЕС, абралі б Расію толькі 48% апытаных. ЕС — 32,1%. Гэта падкрэслівае, што народ Беларусі пакуль не імкнецца яднацца ані з Захадам, ані з Усходам.

**52,4% рэспандэнтаў былі б супраць аб'яднання Беларусі і Расіі**

Гэта нягледзячы на тое, што 73,9% рэспандэнтаў лічаць сябе больш блізкімі да рускіх, чым да еўрапейцаў. І зноў парадокс — да ідэі «рускага міра» станоўча ставяцца толькі 30,9% беларусаў.

Чаму? Таму што Расія — злая і агрэсіўная? Не. 57,8% апытаных беларусаў дагэтуль лічыць, што анексія Расіяй Крыма — гэта «вяртанне Расіяй рускіх земляў і ўзнаўленне справядлівасці». 43,6% мяркуюць, што Расія ў Сірыі сапраўды ваявала з тэрарызмам, які пагражае ўсяму свету.

І ў той жа час 42,9% апытаных выказаліся адмоўна наконт ідэі расійскай авіябазы ў Беларусі.

Такім чынам, «яднанне народаў Беларусі і Расіі» застаецца ўсяго толькі міфам, альбо «патэнцыялам», як пішуць у НІСЭПД. Канешне, грамадзяне Беларусі не супраць скарыстацца выгодамі — адсутнасцю кантролю на мяжы з Расіяй і да таго падобнымі заўважнымі «фішкамі» Саюзнай дзяржавы. Але жыць беларусы прызвычаіліся ў незалежнай краіне — ім і без «агульных дзяржаваў» добра.

А таму свята «яднання народаў» засталося для каго-небудзь усяго толькі чарговай нагодай кульнуць кілішак.



# Гілевіч і Быкаў. Крыху пра адно сяброўства

Сяргей ШАПРАН

**Яны сябравалі тры дзесяцігоддзі, але потым разышліся, — Ніл Гілевіч і Васіль Быкаў. Мабыць, з гэтай прычыны Ніл Сымонавіч нічога не напісаў для кнігі ўспамінаў «Наш Быкаў», якую ў 2004 годзе сабраў-уклаў Генадзь Бураўкін. А можа, і праз тое яшчэ, што да гэтага часу разышоўся ўжо і з Бураўкіным...**

Аднак калі ў 2010-м, неяк завітаўшы да Ніла Сымонавіча, я прапанаваў пагаварыць пра Быкава для альманаха «Асоба і час», што ўкладаў Аляксандр Фядута, пагаварыць менавіта таму, што няма яго ўспамінаў пра Васіля Уладзіміравіча, Гілевіч, хоць адмаўляўся ад усялякіх інтэрв'ю, ахвотна і адразу пагадзіўся. Мы доўга тады гутарылі, Ніл Сымонавіч сказаў, у прыватнасці: «Я ніколі нікому не глядзеў у рот, у тым ліку і Быкаву — я ў душу глядзеў Васілю». Гаварыў яшчэ: «Такая наша блізкасць з Быкавым сяму-таму не падабалася. Але што рабіць? Жыццё ёсць жыццё. Я цяпер горка шкадую, горка плачу, але назад нічога не адкруціш...»

Апошні раз яны бачыліся ў 1998-м, у гадавіну БНР, калі Гілевіч падпісаў сябру маладосці сваю кнігу «Ёсць зямля...»: «Васілю Быкаву — чыё жыццё і слова памагае трымацца ўсёй беларускай Беларусі. І, можа, у першую чаргу — мне. Хай літасцівы і шчодры на ўсё добрае будзе да цябе Бог! Ад сэрца — Ніл Гілевіч. 25.3.98».

...Зрэшты, усё гэта ўзгадалася цяпер з той прычыны, што ў галаве ўвесь час усплывае верш Гілевіча, пра які сам ён распавёў: «Неяк гартаючы фотаздымкі Быкава, я наткнуўся на гэты здымак, дзе ён — лейтэнанцік малодшы ў шынялку і ў пілотачцы, такі змучаны юнак у дваццаць гадоў, гэта 1944 год. І ў мяне адразу выдыхнулася, я тут жа напісаў: «Сорак трэці. Віхура смяротная...»

Наогул Васілю Быкаву прысвечаны дзясяткі вершаў, але, як на мой погляд, дык гэта адно з самых шчымлівых прысвячэнняў:

*Тым, што ваявалі*
*Сорак трэці. Віхура смяротная.*
*Ёй — ні краю яшчэ, ні канца.*
*Як ты бачна, бяда ўсенародная,*
*У паглядзе падлетка байца!..*

*Мне хапіла б свайго незабытага.*
*Толькі як я пра тых прамаўчу? —*
*Шынялёк і пілотачка Быкава*
*Неадступна стаяць уваччу.*

Яны, канешне, цяпер сустрэнуцца, там, у вечнасці. І ім, безумоўна, будзе, пра што пагаварыць...

Вечная вам памяць, Ніл Сымонавіч...

# Увага да праблемы аўтызму

Вікторыя ЧАПЛЕВА

**Беларусь упершыню далучыцца да Сусветнага дня інфармавання аб праблеме аўтызму. Адбудзецца гэта 2 красавіка.**

Фотапраект «Я магу!», лёгкаатлетычны забег і замена падсветак будынкаў Мінска на сіні колер аб'ядноўваюць, каб прыцягнуць грамадства да абгрунтавання праблематыкі аўтызму. Арганізатарамі мерапрыемстваў выступілі мабільны аператар Velcom і грамадскія арганізацыі — «Крылы Анёлаў» і «Дзеці. Аўтызм. Бацькі».

Усяго ў Беларусі налічваюць каля 10 000 дзетак з аўтызмам. І толькі каля 90% з іх можа атрымліваць адукацыю ў навучальных установах. На прэс-канферэнцыі, прысвечанай Сусветнаму дню інфармавання аб праблеме аўтызму, былі разгледжаны метады інклюзіі беларускіх дзяцей у грамадства.

Прадстаўнік ЮНІСЭФ у Беларусі Рашэд Мустафа Сарвар выказаўся досыць катэгарычна: «Колькі можна задаваць пытанне, накшталт: «Ці магчыма рабіць інклюзію?» Трэба пытаць: «ЯК яе рабіць?» Інклюзія — гэта не выбар, але выйсце!»

Па словах прадстаўніка ЮНІСЭФ, у краінах, дзе дзеці з аўтызмам вучацца ў класах са звычайнымі дзецьмі, ён нідзе не бачыў, каб нехта са школьнікаў сказаў: «Мы не хочам прымаць такіх дзяцей». «Аўтысты — гэта звычайныя дзеці, толькі са сваімі асаблівасцямі. І пра гэта варта ведаць усім нам», — падкрэсліў Рашэд Мустафа.

Лёгкаатлетычны прабег праводзіць арганізацыя «Крылы Анёлаў». Крылы — гэта спартсмены, якія вязуць у вазочках Анёлаў — дзетак з інваліднасцю.

«Мы не плануем займацца інклюзіяй — мы займаемся ёй зараз. Дзеці з інваліднасцю маюць не вельмі прыемны выгляд, чым адштурхоўваюць нават дарослых у нашым грамадстве. «Крылы Анёлаў» пераадольваюць страх менавіта дзякуючы спорту. Дзеці з інваліднасцю — не абуза, але мэта. 2 красавіка будзе інклюзіўны прабег, дзе 15 крылаў панясуць сваіх Анёлаў на працягу трох кіламетраў. У нашай камандзе ёсць дзіцёнак з аўтызмам, які да спаборніцтваў ніколі не бегаў. Зараз ён спакойна ходзіць на трэніроўкі. Пры тым, хлопчык не толькі бегае, але і спакойна нырае ў прорубь», — сказаў Зміцер Цімашкоў, дырэктар спартыўнай каманды «Крылы Анёлаў».

Мінск таксама плануе памяняць начную падсветку з нагоды сусветнай акцыі «Запалі сінім». На адзін дзень падсветка буйных сталічных будынкаў стане сіняй — у знак увагі да праблемы аўтызму і салідарнасці з такімі людзьмі.

Спрычыніцца да гэтай акцыі і кампанія «Velcom». Пра мэты кампаніі распавёў кіраўнік аддзелу карпаратыўных камунікацый Вячаслаў Смірноў: «На жаль, мы не можам унесці пэўную суму і тым самым вылекаваць дзетак з аўтызмам. За нашай спінай нас упікаюць гэтай акцыяй, маўляў, што карыснага такім ходам мы можам зрабіць дзеткам з аўтызмам? Але такім чынам мы можам аб'ядноўвацца. А гэта і ёсць пачатак інклюзіі».

Можна будзе пабачыць і фотапраект «Я магу!». Гэта ўжо трэці фотапраект за апошні год. У ім прадстаўлены фотаздымкі дванаццаці дзетак з аўтызмам. Фотаздымкі раскрываюць мары дзяцей. Нехта на іх — рэжысёр, нехта — акцёр, нехта — лекар... Кожны фотаздымак — гісторыя дзіцяці, які не можа пакуль поўнасцю быць уключаным у нашае грамадства праз недастатковую сацыялізацыю і непадрыхтаваную для яго сістэму адукацыі.

Пасля прэзентацыі фотапраекта ў офісе кампаніі «Velcom» выстава пераедзе ў гандлёва-забаўляльны цэнтр «Тытан».

# Мінгарвыканкам не дазволіў пікет

Марат ГАРАВЫ

**Улады не дазволілі пенсіянерам правесці пікет. Пра гэта намеснік старшыні Мінгарвыканкама Ігар Карпенка паведаміў заяўнікам у лісце.**

Узаяўцы 9 актывістаў Грамадзянскай ініцыятывы супраць беззаконня ў судах і пракуратуры з розных рэгіёнаў краіны прасілі ўлады Мінска даць дазвол на правядзенне 31 сакавіка ў цэнтры сталіцы пікета з колькасцю ўдзельнікаў да 15 чалавек.

Мэта акцыі — прыцягненне ўвагі грамадства і дзяржавы да парушэння канстытуцыйнага права грамадзянаў на атрыманне адказаў па сутнасці пытанняў, прадстаўленых у скаргах грамадзянаў у органы суду і пракуратуры, а таксама да бяздзеяння кіраўніка дзяржавы на абарону канстытуцыйных правоў заяўнікаў.

Адмову Ігар Карпенка матываваў тым, што заяўка «не адпавядае патрабаванням артыкулу 9 Закона «Аб масавых мерапрыемствах».

У каментары НЧ юрыстка Тамара Сяргей зазначыла, што артыкул закона накладае на грамадзянаў адпаведныя абмежаванні наконт месца і часу правядзення пікетавання. «Аднак спадар Ігар Карпенка ў сваёй адмове канкрэтна не назваў патрабаванні артыкулу 9 закона, якія мы парушылі. Таму ягоную адмову лічым незаконнай і неабгрунтаванай», — падкрэсліла Тамара Сяргей.

# Маўчаць нават жывёлам!

**Хатнім жывёлам у Беларусі давядзецца маўчаць з 23-й гадзіны вечара да 7-й гадзіны раніцы.**

Час цішыні для іх прадугледжаны праектам закона «Аб абыходжанні з жывёламі», які апублікаваны для грамадскага абмеркавання на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале. Гаспадары хатніх жывёлаў будуць абавязаныя забяспечыць цішыню ў кватэрах шматкватэрных і блакаваных жылых дамоў, у аднакватэрным жылым доме, у якім жывуць некалькі наймальнікаў (уласнікаў). Час цішыні ад 23.00 да 7.00 распаўсюджваецца і на тэрыторыі каля дамоў. Час цішыні не распаўсюджваецца толькі на службовых жывёлаў падчас выканання імі службовых абавязкаў.

Дарэчы, калі гэты закон прымуць, у кватэры шматкватэрнага ці блакаванага жылога дома, у якой жыве адзін уласнік, можна будзе ўтрымліваць не больш за двух жывёлаў (двух сабак, альбо катоў, альбо аднаго сабаку і аднаго ката). У выпадку, калі ў кватэры жывуць некалькі ўласнікаў (наймальнікаў), адна сям'я зможа мець толькі аднаго сабаку ці аднаго ката.

Закон таксама фактычна робіць бясправнымі валанцёраў, якія займаюцца праблемамі безнаглядных жывёл.

**Паводле euroradio.fm**

# Дэпутат абяцае садзейнічаць

**Дэпутат Палаты прадстаўнікоў ад Салігорску Яўген Абаленскі выказаў гатоўнасць выкарыстоўваць даклад мясцовых праваабаронцаў аб выкананні правоў беларускамоўных грамадзян у сваёй далейшай працы.**

Аднак Абаленскі не ўзяў на сябе адказнасць выступіць з ініцыятывай аб унясенні зменаў у моўнае заканадаўства.

Рэагуючы на зварот салігорскага прадстаўніка Беларускага Хельсінкскага Камітэта Леаніда Мархоткі па праблеме моўнай дыскрымінацыі, спадар Абаленскі адзначыў, што дэпутацкі корпус Палаты прадстаўнікоў прымае толькі тыя меры па распаўсюджанні ўжывання беларускай мовы, якія выпрацаваны кіраўніком дзяржавы «у межах адзінай дзяржаўнай палітыкі». Ці гэтая «адзіная дзяржаўная палітыка» і з'яўляецца галоўнай прычынай існавання моўнай дыскрымінацыі ў краіне, Яўген Абаленскі не ўдакладняе, але на ўсялякі выпадак рэкамендуе і ў далейшым накіроўваць канкрэтныя прапановы па ўдасканаленні заканадаўчай базы ў частцы выкарыстання беларускай мовы ў адпаведныя Пастаянныя камісіі Палаты прадстаўнікоў.

Са свайго боку дэпутат Абаленскі абяцае выкарыстоўваць палажэнні дасланага праваабарончага даклада ў сваёй далейшай працы з мэтай садзейнічання пашырэнню выкарыстання беларускай мовы.

**spring96.org**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Жыць будзем, але як?

Сяргей САЛАЎЁЎ

**З прыходам вясны ачуняла жыццё. Мы дачакаліся — Еўразійскі фонд стабілізацыі і развіцця выдзеліў Беларусі крэдыт у памеры 2 мільярды долараў. І нават ужо пералічыў першы транш у 500 мільёнаў. Чаго чакае ЕАБР на свае грошы?**




Найперш, павелічэнне ўзроўню кампенсацыі выдаткаў на ЖКГ тарыфамі для насельніцтва з 30% на канец 2015 года да 70% — на канец 2017 года. Па меркаванні фонду, гэта дазволіць беларусам быць больш эканомнымі, а прадпрыемствам ЖКГ пазбавіцца ад перакрыжаванага субсідавання «як важнага фактару павышэння канкурэнтаздольнасці беларускай эканомікі».

Цікава, з чаго супрацоўнікі ЕАБР узялі, што павышэнне коштаў ЖКГ павысіць канкурэнтаздольнасць эканомікі? Наша ЖКГ дагэтуль застаецца дзяржманапалістам, і гэта не ад коштаў залежыць. Каб ішла размова пра стварэнне альтэрнатывы дзяржаўным ЖЭСам і ЖРЭУ — можна было б гэта зразумець. Але пра альтэрнатыву нічога не кажацца.

Праграмай прадугледжваецца скарачэнне дырэктыўнага крэдытавання на 1% і 2% ВУП у 2016 і 2017 гадах адпаведна. Гэта добра. Але ЕАБР робіць дзіўную выснову, што гэта, «разам з лібералізацыяй цэн, адменай дырэктыўных паказчыкаў для дзяржаўных прадпрыемстваў, скарачэннем назапашанага разрыву паміж ростам рэальнай заработнай платы і прадукцыйнасцю працы, мерамі па павышэнні прадпрымальніцкай ініцыятывы, зніжэннем рэгулятыўных выдаткаў для бізнесу, а таксама стымуляваннем працэсу прыватызацыі, будзе спрыяць павышэнню патэнцыялу эканамічнага росту».

Выбачайце, але скарачэнне дзяржаўнага крэдытавання наўрад ці ўплывае на «меры па павышэнні прадпрымальніцкай ініцыятывы». Хіба што трактары МТЗ будуць прадаваць на аўтарынку «Малінаўка» ў Мінску — тады так, гэта будзе прадпрымальніцкая ініцыятыва МТЗ. Немаведама, як скарачэнне дзяржкрэдытавання будзе зніжаць рэгулятыўныя выдаткі бізнесу, і чаму яно павінна адбіцца на працэсе прыватызацыі. Хіба што прадпрыемствы без дзяржпадтрымкі сканаюць, і іх будуць прадаваць? А хто іх купіць у сённяшніх умовах?

У чыстай рэшце (для насельніцтва) гэтая праграма — тое ж, што «захады жорсткай эканоміі» для Грэцыі. Яна азначае лібералізацыю коштаў, павышэнне кошту ЖКГ, «скарачэнне назапашанага разрыву паміж ростам рэальнай заработнай платы і прадукцыйнасці працы» (то бок, скарачэнне заробкаў). Карацей, зноў за ўсё заплаціць насельніцтва. А вось якраз «структурных рэформаў», такіх, як раздзяржаўленне эканомікі, стварэнне новых працоўных месцаў, тая ж прыватызацыя, падтрымка людской ініцыятывы і малога і сярэдняга бізнеса — такога ў планах ЕАБР няма. На жаль.

Дзяржава і пры гэтым прагягвае выціскаць з насельніцтва апошнія капейкі. Напрыклад, падняла падатак на дададзеную вартасць (ПДВ) з 20 да 25% на паслугі сувязі. Усе мабільныя аператары і інтэрнэт-правайдэры ў выніку абвясцілі пра маючае павышэнне тарыфаў. І на гэтым жа не спыніліся! Якраз напярэдадні пачатку «дачна-вясковага сезона» ўведзены той жа ПДВ на гарадскія і прыгарадныя пасажырскія перавозкі. ПДВ складае 20%.

> **Эканамічнае самаадчуванне беларусаў за першыя тры месяцы 2016 года значна пагоршылася, сведчаць вынікі апытання, праведзенага Незалежным інстытутам сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў**

«Падаткам... абкладаюцца абароты па рэалізацыі на тэрыторыі Беларусі паслуг па перавозцы пасажыраў гарадскім і прыгарадным аўтамабільным транспартам у рэгулярных зносінах; гарадскім электрычным транспартам і метрапалітэнам; унутраным водным транспартам у прыгарадных зносінах; чыгуначным транспартам агульнага карыстання на гарадскіх і рэгіянальных лініях», — гаворыцца ў тлумачэнні да ўказа.

Кіраўнік Мінфіна Уладзімір Амарын заявіў, што ўвядзенне ПДВ не пацягне павышэння тарыфаў на гэтыя паслугі. Хто ж яму паверыць? Усе-ўсе чыноўнікі кажуць, што ў нас грамадскі транспарт і без таго стратны, субсідуемы і гэтак далей, а тут розныя «аўтатрансы» і чыгунка яшчэ будуць адлічваць 20% у бюджэт, і пры гэтым не падымуць кошты? Як такое можа быць? Грошы ж ніадкуль не бяруцца.

Ну і, канешне ж, рашэнне пра павышэнне пенсійнага ўзросту. Справа не ў тым, што ён вырасце на 3 гады за 6 гадоў. Нам шмат казалі пра тое, што па гэтым пытанні трэба параіцца з народам і разам вырашыць, на колькі, калі і якім чынам яго падвышаць. Аж да рэферэндуму. Але, як заўсёды, рашэнне было прынятае ў стылі «мы параіліся, і я вырашыў».

Не дзіва, што ў такіх умовах беларусы адчулі крызіс у кішэні. Эканамічнае самаадчуванне беларусаў за першыя тры месяцы 2016 года значна пагоршылася, сведчаць вынікі апытання, праведзенага ў сакавіку Незалежным інстытутам сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (Літва). Было апытана 1508 чалавек, памылка рэпрэзентатыўнасці не перавысіла 3%.

Так, 59,6% рэспандэнтаў заявілі, што іх матэрыяльнае становішча за тры месяцы 2016 года пагоршылася. У снежні мінулага года пра пагаршэнне матэрыяльнага становішча заяўлялі 42,4% рэспандэнтаў.

Сярэдні даход на аднаго члена сям'і знізіўся са 195 долараў у снежні 2015 года да 147 у сакавіку гэтага года, хоць у мінулым чэрвені гэтая велічыня складала 240 долараў. Такім чынам, за дзевяць месяцаў сярэдні даход на аднаго члена сям'і знізіўся на 40%. Больш за 61% апытаных адзначылі, што яны ледзь «зводзяць канцы з канцамі», «грошай не хапае нават на прадукты» альбо «на прадукты грошай хапае, але купля адзення выклікае сур'ёзныя цяжкасці». У верасні 2014 года ў такім становішчы знаходзіліся 33,3% рэспандэнтаў.

Пра тое, што беларуская эканоміка знаходзіцца ў крызісе, упэўнена заявілі 87,8% удзельнікаў сакавіцкага апытання (на чвэрць больш, чым у верасні мінулага года), у той час як не пагадзіліся з гэтым толькі 4,4% апытаных. І 40,4% апытаных упэўненыя, што гэта надоўга, што гэта не «часовыя цяжкасці», а чвэрць апытаных — 24% назвалі наяўную сітуацыю крахам беларускай эканамічнай мадэлі.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Мікола Статкевіч

**Былы палітвязень і экс-кандыдат у прэзідэнты можа апынуцца невыязным.**

29 сакавіка Статкевіч быў выкліканы ў Ленінскі РУУС Мінска. Там яго чакалі не толькі супрацоўнікі міліцыі, але і судовыя выканаўцы. «Я знаходжуся пад прафілактычным наглядам і абавязаны з'яўляцца ў аддзел міліцыі на выклік, — распавядае Статкевіч. — Павінен быў прыйсці туды, а там ужо чакалі судовыя выканаўцы», — сказаў ён.

Са слоў Статкевіча, яму прапанавалі распісацца за тое, што за ім лічацца тры штрафы агульнай сумай 25,2 мільёна. Аднак палітык заявіў, што без кансультацый з адвакатам нічога падпісваць не будзе.

«Судовыя выканаўцы сказалі, што ў такім выпадку мне адключаць мабільную сувязь, будзе забаронена карыстацца аўтамабілем і выязджаць за межы Беларусі», — кажа былы палітвязень. Аднак аплачваць штрафы палітык і цяпер не збіраецца.

«У іх ёсць легальная магчымасць атрымаць свае штрафы — вылічваць грошы з маёй вайсковай пенсіі, — адзначае Статкевіч. — Але, мабыць, такі варыянт не задавальняе. Тады хай паказваюць усяму свету і сваім новым сябрам, якая ў Беларусі лібералізацыя. А я не магу плаціць, бо не ўважаю сябе за вінаватага».

## Уладзімір Макей

**Кіраўнік МЗС патлумачыў венгерскай газеце «Мадзьяр Хірлап» беларускія асаблівасці выканання правоў чалавека.**



Аказваецца, справа, як заўсёды, у грошах. «Праблем у нашай краіне не больш, а то нават і менш, чым у некаторых іншых краінах, якія лічаць дэмакратычнымі. Проста некаторыя краіны валодаюць вялікімі рэсурсамі, і да іх менш прэтэнзій», — заўважыў Макей.

Галоўнай задачай улады ў Беларусі Макей назваў захаванне стабільнасці і забеспячэнне ўстойлівага эканамічнага развіцця. «Вядома, паралельна мы павінны клапаціцца аб забеспячэнні правоў чалавека. Але правы чалавека — гэта не толькі права выходзіць на вуліцу з рознымі лозунгамі. Гэта таксама права на працу, на жыллё, на адукацыю. Калі ў чалавека гэта ёсць, то ён задумаецца, ці трэба яму выходзіць і крычаць: «Далоў таго! Далоў гэтага!». Ды і тыя, хто выходзіць на вуліцу, павінны дзейнічаць па законах і правілах, не правакаваць улады, інакш будзе хаос і анархія», — сказаў ён.



## Андрэй Арамнаў

**Беларускі алімпійскі чэмпіён па цяжкай атлетыцы заявіў, што завяршыў кар'еру.**

«Я канчаткова завязаў са спортам. Ужо амаль як год зусім не займаюся цяжкай атлетыкай. Перад мной паўстаў выбар: альбо стаць інвалідам, або кінуць займацца спортам і перайсці на трэнерскую пасаду. Я заўсёды хацеў пераскочыць планку чалавечых магчымасцяў. Імкнуўся да такіх рэкордаў, каб ні адна жывая душа не падступілася. З-за гэтага ў мяне здарылася перагрузка арганізма», — цытуе Арамнава by.tribuna.com.

Паводле яго слоў, назапасіць грошай яму не ўдалося: «На добрую падрыхтоўку да кожнага чэмпіянату свету я павінен быў траціць 10 тысяч долараў. Іншы раз падрыхтоўка каштавала даражэй, чым узнагарода. У мяне ж элементарна ніколі не хапала ежы. Алімпійскую стаўку ў Стайках трэба спаліць. Там давалі адзін кавалак мяса і макароны — гэта няправільна. Я сам дакупляў сабе вітаміны і іншыя неабходныя прадукты».

Зараз Арамнаў за трэнерскую працу атрымлівае 1,3 мільёна рублёў, а жыве на тое, што здае кватэру, якую атрымаў за перамогу на Алімпійскіх гульнях. «Я лічу, плаўны пераход ад спартсмена да трэнера наогул немагчымы. Гэта магія і чараўніцтва. Гэта проста нерэальна», — кажа спартсмен.

# Запавет Ніла Гілевіча:
# «Будзем аптымістамі...»

Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ


Фота bel.sputnik.by

**Гэта інтрв'ю было зроблена паўгода таму, напярэдадні дня народзінаў Народнага паэта Беларусі. Многае сказанае Нілам Сымонавічам у верасні 2015 года не страціла сваёй актуальнасці і гучыць як запавет.**

***— Ніл Сымонавіч, якою вам бачыцца Беларусь 2015 года, ці адчуваюцца пэўныя змены да лепшага альбо да горшага?***

— На вялікі жаль, вясёлага на сённяшні дзень нічога не бачу. Як і раней — і год, і два, і пяць, і дзесяць назад — наша грамадства, ці нават, скажам, народ наш, насельніцтва Беларусі далёка не ўсё паднялося да разумення галоўнай задачы, якая стаіць перад намі, перад нашай дзяржавай. Галоўная задача — не дапусціць, каб наша мова і далей гінула так, як яна гіне цяпер. Без усведамлення, што такое мова ў жыцці народа, што такое нацыянальная культура, нацыянальная гісторыя, у народа не можа быць будучыні. Дык вось, на вялікі жаль, гэту ісціну, апрабаваную дзясяткамі народаў на працягу стагоддзяў, у нас разумеюць далёка не ўсе. І таму падымаюць пытанні, патрабуюць вырашаць эканамічныя праблемы, сацыяльныя, экалагічныя і іншыя. Не ўсведамляючы, што паперадзе ўсіх праблем павінна ісці праблема мовы. Сказаў жа некалі першы вялікі, першы народны беларускі паэт Францішак Багушэвіч: «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!». Усё! Што ж незразумелага? Калі не хочам памерці, а хочам жыць, значыць, павінны перш за ўсё ратаваць мову. Гэтым не адмаўляючы важнасць рашэння іншых вышэйпералічаных задач. На вялікі жаль, і сёлетняя сітуацыя, і пяць гадоў назад, і дзесяць... Прэтэндэнты на самую высокую пасаду ў нас вось на гэта самае галоўнае забываюцца. Не лічаць самым галоўным. Мяне гэта бязмерна засмучае. Інтэлігенцыя гэта павінна разумець. Канечне, некаторыя з прэтэндэнтаў на правадыра краіны забываюцца па іншых прычынах. Але яны і не з'яўляюцца патрыётамі Беларусі. Іх мала цікавіць лёс Беларусі менавіта як «беларускай Беларусі». Таму лічу, што сёння найпершы абавязак усіх свядомых беларускіх грамадзян — патрыётаў бацькаўшчыны — думаць пра гэта, турбавацца пра гэта. Ну і па меры магчымасцяў дабівацца карэнных пераменаў у гэтых адносінах.

***— Наколькі Вам удаецца сачыць за новымі кнігамі, за літаратурнай перыёдыкай, наогул за станам сучаснай беларускай літаратуры?***

— Я ўжо некалькі разоў сказаў «на вялікі жаль» і яшчэ раз скажу: на вялікі жаль, вельмі мала. Па стане здароўя. У мяне ўвогуле глядзіць толькі адно вока, і тое ўсё слабей і слабей. Мне чытаць вельмі цяжка, сам амаль не чытаю. Вось прыходзіць часам пляменніца, сястра малодшая, чытае. Ну яшчэ прэсу сяк-так перакідаю, хоць загалоўкі, набраныя буйнейшымі літарамі. Таму стараюся больш слухаць радыё. Бывае, што ўвесь вечар і да позняй ночы каля радыё — і нашага афіцыйнага дзяржаўнага, і Радыё Свабода, і іншыя станцыі — каб усё-такі быць у курсе, дзе, што і як адбываецца. Выручаюць і сябры, прыйдуць, раскажуць, абмяняемся думкамі па тым ці іншым пытанні. Я вельмі неабыякавы да таго, што адбываецца ў нашай краіне і ў блізкім свеце. За падзеямі ва Украіне з першага дня выхаду на Майдан я сачыў і сачу, як толькі можна. І вельмі хачу і спадзяюся, што паразумнеюць нарэшце тыя, хто сёння займае не тое што небратэрскую, але недружалюбную пазіцыю ў дачыненні да нашай братняй Украіны. Так нельга, катэгарычна так нельга.

***— Цяпер стаўленне беларусаў да Украіны праз расійскія СМІ падзеленае на дзве часткі, два лагеры. Ёсць тыя, хто верыць расійскім навінам, і тыя, хто не верыць.***

— Натуральна. Мне цяжка сказаць, але я ведаю, што мы падзеленыя на дзве палавіны і, зноў жа «на вялікі жаль», нашмат больш тых, хто падтрымлівае Расію і не перажывае, не хварэе за лёс Украіны. Што хацець, калі наша насельніцтва, у вялікай сваёй частцы, за Беларусь не змагаецца і не перажывае — дык дзе ж ужо там за Украіну! І аднак жа, думаю, я не памыляюся, калі мяркую, што з ліку нашай моладзі ўсё больш і больш тых, хто разумее наш абавязак крэўных братоў, суседзяў украінскага народа суперажываць і, па магчымасці, дапамагаць. Мяне вельмі кранула, што нямала нашых хлопцаў удзельнічала і на Майдане, і ў баях на баку ўкраінскай арміі за незалежную і непадзельную Украіну. З вялікім хваляваннем чытаў пра смерць і пахаванне берасцейскага хлопца Алеся Чаркашына. Вельмі кранула мяне, што столькі людзей сабралася на пахаванне. Узрадавала вестка пра ўрадавую ўзнагароду, дадзеную пасмяротна Міхасю Жызнеўскаму. Гэта і сапраўдныя беларусы, і сапраўдныя сябры братняй Украіны.

***— Якое ў Вас склалася меркаванне наконт чарговых прэзідэнцкіх выбараў, калі можна ўжываць тут гэтае гучнае слова?***

— Апошні раз я ўдзельнічаў у выбарах у 1994 годзе. Пасля вельмі хутка зразумеў, што з намі здарылася, з нашай Беларуссю. Выбараў сапраўдных, належных, як ва ўсіх дэмакратычных краінах, не можа быць, пакуль не памяняецца сітуацыя. З павагі да сябе, да свайго разумення, што такое дэмакратыя і абавязкі кіраўнікоў дэмакратычнай краіны, я не хачу прыніжаць сябе і ўдзельнічаць нават намінальна. І на гэты раз, што б ні гаварылі, што б ні абяцалі, усё застанецца як было. Мы павінны былі ісці шляхам, як у найбольш перадавых еўрапейскіх краінах: тэрмін прэзідэнцтва — максімум дзве кадэнцыі. Не больш. А ў нас, бачыце, дваццаць адзін год — адзін і той жа правадыр. За дваццаць гадоў хіба не пераканаліся, што сапраўдных выбараў няма?..

***— Ніл Сымонавіч, але як змяніць гэтую сітуацыю?***

— Адна партыя ці група не зменіць нічога. Толькі Майдан зменіць. Як ва Украіне: быў Януковіч — і няма Януковіча. Выйшаў народ. Таму ўсе свядомыя змагары за беларускую Беларусь павінны рыхтаваць народ. А ён выйдзе тады, калі будзе гэтак жа нацыянальна выхаваны і патрыятычна настроены, як украінскі народ. Нам яшчэ далекавата да гэтага. Бо інакш як выйдзе народ увесь, не дзясяткі нават тысяч, а сотні, калі не разумеюць галоўнай задачы? І думаюць, што я прагаласую за таго, каго я хачу, і ўсё на гэтым. Ну і што? Даўно было сказана: выйграе не той, хто галасуе, а той, хто падлічвае галасы.

> **Я надзей не трачу. Я веру. Калі я заклікаў «не падаць духам», дык ясна, што і сам не падаю. Вельмі бывае цяжкі настрой ад усёй брыдоты, якую бачыш, чуеш. Але, як у народзе кажуць, перажылі зіму, пераживём і лета...**

Але складаць рукі ў бяздзейнасці і маўчаць нельга. Трэба як мага больш актыўна тлумачыць народу, у чым наша слабасць. Простыя людзі і сёлета спадзяюцца, што пасля выбараў зажывуць лепш, багацей. Трэба ж разумець, калі гэта можа адбыцца. Няма іншага шляху, як асветніцтва ў народзе. Помніце, чыталі, як пры цары яшчэ дэмакратычная інтэлігенцыя ставіла задачу асветніцтва сярод масаў. Цёмныя масы могуць узарвацца, але чаго гэтым дасягнуць? Таго, што на змену аднаму дыктатару прыйдзе другі, на змену другому — трэці. Таму колькі ёсць магчымасцяў, хоць яны не такія вялікія, колькі ёсць сілаў, трэба гаварыць з людзьмі, тлумачыць, якім чынам мы можам павярнуць у іншы бок усю сітуацыю. Так, як людзі рабілі. Не мы першыя, не мы апошнія.

Глядзіце, найбольш даступны нам прыклад. Возьмем Польшчу. Дзвесце з гакам гадоў назад царская Расія на пару з Прусіяй і Аўстрыяй разарвалі Польшчу. Нават сталіца Польшчы апынулася ў складзе Расійскай імперыі, там быў заснаваны рускі ўніверсітэт, і ўсе найважнейшыя, галоўныя парадкі былі ўсталяваныя гэткія, як і ў Расіі. Але ёсць адно вялікае «але»: польская інтэлігенцыя, а следам за ёю і польскі народ, не адракліся ад польскай мовы. Наадварот, узяліся яшчэ з большым натхненнем выхоўваць нацыянальны польскі патрыятызм. Геніяльны польскі паэт Адам Міцкевіч нарадзіўся, калі Польшча ўжо была ў складзе Расіі. Але ён і яго сучаснікі — і пісьменнікі і навукоўцы — сталі вялікімі патрыётамі, адчуўшы сур'ёзную небяспеку. А таксама зрабілі некалькі спробаў вызваліцца ад прыгнёту. І што? Як толькі наступіў гістарычны момант, 1918 год, уваскрэсла Польшча, атрымала дапамогу ад іншых дзяржаў і настолькі адчула ўнутраныя сілы, што ў наступным годзе пайшла вайной на савецкую Расію. Вось што значыць — не страціла нацыянальны дух, нацыянальную годнасць, пашану да сваёй польскай культуры і мовы. Цяпер, пасля апошняй вайны, навязаў Іосіф Вісарыёнавіч Польшчы такія ж парадкі, як і для ўсяго сацыялістычнага лагеру. Цярпелі, так, але і пры сацыялістычных парадках як расквітнела польская культура, літаратура, мастацтва. І як падышоў час — і ніякай крамлёўскай апекі. Вазьміце Прыбалтыку: здавалася, так прыдушылі, што далей няма куды. А што мы бачым цяпер? Нам ёсць з каго браць прыклад — з нашых суседзяў.

***— Што б вы маглі пажадаць новым пакаленням беларускіх літаратараў і наогул беларускай моладзі?***

— Што выходзіць велічэзная колькасць кніжак маладых, мяне вельмі цешыць. Не важна, што яны ўсе не на тым узроўні, на якім хацелася б бачыць. Так было ва ўсе часы. Ёсць таленавітыя, ёсць вельмі таленавітыя, ёсць, дай Божа, геніі. І ёсць слабейшыя, але не безнадзейныя. Нешта карыснае могуць рабіць — хай робяць! Калі трапляецца зусім пустое графаманства — што ж з таго, гэтак і сто гадоў таму было.

У мяне на маладых вялікая-вялікая надзея. Я некалі і верш напісаў «Кліч да беларускай моладзі» і заклікаў не падаць духам. «Не падайце духам, хлопцы, і гнеў не тапіце ў стопцы». Толькі так. Я пры гэтым разважаю, што не можа ўсё насельніцтва, увесь народ да такой ступені страціць розум, каб адмовіцца ад абароны сваёй Бацькаўшчыны. З ліку моладзі ўсё больш і больш тых, хто ўсё разумее. Таму і ходзяць і на курсы беларускай мовы, пішуць на роднай мове, і выдаюць, і чытаюць. Ну, і на мітынгі ідуць. Я надзей не трачу. Я веру. Калі я заклікаў «не падаць духам», дык ясна, што і сам не падаю. Вельмі бывае цяжкі настрой ад усёй брыдоты, якую бачыш, чуеш. Але, як у народзе кажуць, перажылі зіму, перажывём і лета...

Мяне заўсёды падтрымлівае веданне, як выстаялі народы еўрапейскія, не проста меншыя колькасна за Беларусь, а ў некалькі разоў меншыя. Славенцы квітнеюць. Чарнагорцы, македонцы, славакі, фіны. Нават чэхаў і балгараў менш, чым беларусаў. І трымаюцца, не скардзяцца Богу на свой лёс. Тут можна задушыцца ад крыўды: чаму беларусы нічога не бачаць і не разумеюць? Дзякуй Богу, моладзь пачала разумець, асабліва як стала ездзіць за мяжу.

Будзем аптымістамі, іншага не дадзена. Будзем верыць у нашу праўду, у нашу перамогу.

*«Новы Час» смуткуе разам з усім беларускім народам і выказвае глыбокія спачуванні родным і блізкім Ніла Сымонавіча. Светлая памяць.*



Зміцер ГАЛКО

**«Цяпер вы ўбачылі сапраўдную Беларусь, зазірнулі за вылізаны фасад. Мінск — гэта ўсяго толькі намаляваны ачаг у жалю вартай каморцы Таты Карла. І за тым намаляваным ачагом уваход не ў тэатр, а ў пакой жахаў».**

### «Пад сабою не чуем краіны»

Літаральна на мінулым тыдні, пасля паездкі ў Рагачоў, я зразумеў, што вельмі кепска ведаў сваю краіну. Да гэтага я быў упэўнены, што ўся Беларусь — прыкладна такая самая, як мой родны Мінск. Чыстая, акуратная, з роўнымі новымі дарогамі, новабудоўлямі, з фабрыкамі і заводамі, якія, магчыма, працуюць на склад, але працуюць. З дарожкамі, лаўкамі і ліхтарамі ў цэнтральных парках. І з палітычнай адлігай, то бок вітрыннай лібералізацыяй. Ва ўмовах якой улады намагаюцца калі не быць, дык прынамсі выглядаць дэмакратычнымі.

У Рагачове гэтая карціна разбілася ўшчэнт, на друзачкі. Ужо на выездзе з Рагачова я пачуваўся гэтак жа сама, як пачуваўся летам 2014 года, канчаткова выязджаючы з акупаваных тэрыторый на Данбасе на тэрыторыю, падкантрольную Украіне. Тады мой італьянскі сябра выгукнуў: «Чортаў Данбас! Нарэшце мы ў цывілізаванай краіне!» Дык вось, калі мы вярнуліся з Рагачова ў Мінск, я ўздыхнуў з палёгкай, нібыта прыехаў у зусім іншую, свабодную і заможную краіну.

Дарэчы, я б ніколі ў Рагачоў, мабыць, і не трапіў, калі б мая дапамога не была патрэбна здымачнай групе брытанцаў. Яны на замову Google рабілі ў Беларусі фільм пра «свабоду самавыяўлення і новыя тэхналогіі». І ў якасці аднаго з герояў абралі Дзяніса Дашкевіча. Мясцовага незалежнага журналіста, рэдактара сайта Vrogacheve, барацьбіта з чыноўніцкай карупцыяй і абыякасцю.

На мой сорам, спачатку я ўгаворваў сваіх калегаў адмовіцца ад гэтай паездкі. Бо ведаў, наколькі дарагі для іх час, і нічога не ведаў пра той Рагачоў. Калі ж я пачуў ад іх пераказ словаў Дзяніса пра нечуваную карупцыю і неверагодны ўзровень рэпрэсіўнасці мясцовых уладаў, я вырашыў, што малавядомы правінцыйны актывіст перабольшвае, каб прыцягнуць да сябе ўвагу. Прабач, Дзяніс!

Дзяніс пачаў здымачны дзень са слоў: «Вы мусіце ведаць, што Беларусь — гэта не Мінск». То бок не вылізаная, даволі заможная, цалкам еўрапейская з выгляду, упарадкаваная краіна. Гэта краіна пакрытая плямамі беднасці, распаду і чыноўніцкага самадурства. Краіна даволі панылая і страшнаватая. Не ведаю, ці можна словы Дзяніса аднесці да «васьмідзесяці адсоткаў Беларусі», як ён сцвярджаў, але Рагачоў сапраўды аказаўся такім.



Закрыты агароднінны завод, калісьці вядомы на ўсю краіну

Фота Дзяніса Дашкевіча

# Беларусь — гэта не Мінск

### Дрыгва замест фантанаў

Мы папілі кавы з цукеркамі «Roshen» у яго дома, абмеркавалі планы на дзень і першым чынам паехалі паглядзець на цэнтральны рагачоўскі парк. Брытанскія калегі доўга не маглі зразумець, навошта ім ехаць у парк «з фантанамі, лебедзямі і французскімі турыстамі», на які ўладамі былі выдзеленыя вялізныя грошы — толькі па афіцыйнай, магчыма, не поўнай інфармацыі, каля 600 тысяч долараў.

Прыехалі на месца. Пакруцілі галовамі. Не згаворваючыся, усе разам спыталі ў Дзяніса: «А дзе ж парк?!»

«Ну як дзе? — адказаў Дзяніс. — Вось лебедзі, вось фантаны, вунь французскія турысты. Прынамсі, улады іх бачаць. А вось мясцовыя жыхары і незалежныя журналісты — не».

Замест цудоўнага парку мы пабачылі зарослую пустазеллем і быллём пустку, засмечаную пустымі пляшкамі ад спіртных напояў і няпарнымі ботамі. «Магчыма, засталося ад французскіх турыстаў», — гаворыць Дзяніс.

Пустку «ўпрыгожвалі» дзве крывыя копанкі з мутнай вадой. «Не выключана, што мясцовыя ўлады нешта ведалі пра надыходзячы крызіс і вырашылі, што заraз будзе не да прыгажосці. Абы неяк пракарміцца. Бо мясцовыя жыхары знайшлі гэтым копанкам карыснае прымяненне — запусцілі сюды карасёў і вудзяць», — кажа герой брытанскага фільму.

Менавіта з размовы з мясцовым жыхаром і пачалася нейкая «беларуская Сіцылія» ці «беларуская Паўднёвая Карэя».

Дзед весела і кепліва распавядаў нам пра тое, што «тыя ёлупні толькі горш зрабілі», бо на гэтым месцы раней быў сапраўдны парк, з прыгожымі дрэвамі і алеямі, якія яны пасеклі. Распавядаў, як ужо былі завезлі матэрыялы, але тыя як з'явіліся, так і зніклі раптоўна, а потым сюды следчая група прывозіла мэра горада, дык ён нешта ім там паказваў, хадзіў, мэра пасадзілі, а парк як быў Дрыгвой (нефармальная назва месца, якую далі мясцовыя жыхары, — аўт.), гэтак суцэльнай Дрыгвой і застаецца. Хіба што карасёў вудзім, а так суцэльнае паскудства, цьху, куды толькі прэзідэнт глядзіць! Мо таму, што ён ніколі тут не бывае, чыноўнікі і распераzаліся. А можа, усе яны там, наверсе, аднолькавыя, каб ім пранцы. Саджаюць кагосьці пастаянна, а да лепшага ні халеры не мяняецца.

### Беларуская Сіцылія

Здымаем дзеда, і тут паўз нас павольна праязджаюць тры машыны, напоўненыя каржакаватымі мужчынамі ў характэрных вязаных шапачках. Выглядала гэта, як у нейкім серыяле, — мафіёзі прыехалі на пустку «вырашаць пытанні».

«Разумееце, калі вы здымалі толькі мяне, яны б не хваляваліся. Бо мяне можна прадставіць грамадскасці як апазіцыянера і ворага народу. А вось калі вы пачалі размаўляць з простымі людзьмі, і яны пачалі казаць тое ж самае, што кажу я, у іх нервы не вытрымалі», — тлумачыць Дзяніс з'яўленне на сцэне тых «мафіёзі», сярод якіх ён пазнаў мясцовых міліцыянтаў і чыноўнікаў.

Сталі трохі на аддаленні. Выйшлі з машыны, рукі ў кішэнях, вязаныя шапкі на лоб, стаяць і глядзяць на нас нядобрымі вачыма. Ну добра, давай, Дзяніс, пакажы, які ты смелы незалежны журналіст. Падыдзі і спытай, хто яны і навошта сюды прыехалі.

Але як толькі мы да іх падышлі з камерай, «мафіёзі» ўсе разам ад нас адвярнуліся, пачалі рухацца, удаючы, быццам яны прыехалі на засмечаную пустку па нейкай сваёй вельмі важнай справе. Размаўляць адмовіліся.

Мы пайшлі да сваёй машыны, бо цікавы сюжэт — цікавым сюжэтам, але застацца на пустцы з хеўрай суворых мужыкоў бандыцкага выгляду нікому не хацелася. А нашу машыну ўжо прыціснуў дарагі белы мікраўтобус. Адтуль выскачыла тыповая беларуская начальніца, якая аказалася галоўным ідэолагам горада, стала хапаць Дзяніса Дашкевіча за рукі, спрабуючы адцягнуць далей ад камеры. Што вы тут робіце, што вы здымаеце, чаму вы ніяк не супакоіцеся, праблемаў хіба захацелі, дык я вам ствару праблемы.



«Парэшткі французскага турыста»

Пасля доўгай і бессэнсоўнай спрэчкі з чыноўніцай Дзяніс спытаў, ці не магла б яна адпусціць нас паснедаць.

«Навошта вам яшчэ снедаць, вы ўжо папілі кавы з рашэнаўскімі цукеркамі, хопіць з вас. Мне здаецца, што брытанскім таварышам ужо час паехаць з горада, а не снедаць яшчэ тут», — ашаламіла нас сваімі ведамі спадарыня Тамара Вераб'ёва, начальнік аддзела ідэалогіі, культуры і па справах моладзі. Дадаўшы на развітанне, што яны «сёння ж пачынаюць рэканструкцыю парку». Для гэтага, мауляў, і прыехалі.

Едзем снедаць. За намі — белы мікраўтобус і тыя самыя тры машыны. Машын потым стане болей, за намі паўсюль будзе «хвост», па ўсім горадзе.

Падчас сняданку ад крыніцы ў гарвыканкаме прыйшло паведамленне, што супраць нас рыхтуецца правакацыя. Дзяніса збіраюцца арыштаваць за хуліганства. Пазней мы атрымаем інфармацыю, што рагачоўскія ўлады паведамілі ў цэнтр, нібыта брытанцы ходзяць па горадзе п'яныя, крычаць, размахваюць рукамі і — увага! — «паводзяць сябе непаважліва, як тыя каралі тут багуюць».

Калі мы ад'язджалі ад кавярні, дарогу нам рэзка перакрыў мікраўтобу ДАІ, праверылі дакументы і машыну. За ўсім гэтым з свайго мікраўтобуса сачыла спадарыня Вераб'ёва.

Паблізу ад закрытага агароднiннага завода, у занядбаным раёне горада з нефармальным назвай «Паўночная Карэя», нас «пасвілі» не меней за пяць машын. На ўсёй хуткасці туды прыехала дырэктарка карааке-бару, адкрытага на месцы былой прахадной, каб паведаміць, што завод ужо ледзьве не заўтра купяць нейкія расіяне.

Заўважу, што перад тым Дзяніс нам распавядаў, што за той завод чыноўнікі заградзілі «неадэкватную цану», ды яшчэ і з адкатам. Але замежныя інвестары, які прыязджалі ў Рагачоў, схемы не зразумелі, таму заводы ніхто і не купіў дасюль. Большая іх частка ў Рагачове або збанкрутавала і закрылася, або ледзь ліпяць і хутка таксама могуць ляснуцца.

На пад'ездзе да закрытай мэблевай фабрыкі дарогу нам перакрыў грузавік, каля якога завіхаліся людзі ў вайсковай форме… Брытанцы папалохаліся ўжо не на жарт, месца было бязлюднае, закрытае, хто яго ведае, што тут можа здарыцца.

### Беларуская Паўночная Карэя

І менавіта ў гэты момант прыйшла інфармацыя з гарвыканкаму, што нас чакаюць у гарадскім музеі, каб правесці для нас экскурсію, сустрэчу з прадстаўнікамі адміністрацыі, БРСМ і піянерскай арганізацыі.

Брытанцаў гэтая прапанова спалохала ці не болей, чым усё, што адбывалася дасюль. Дзяніс, які казаў, што «ніколі ў жыцці ні з чым падобным не сутыкаўся», таму яму карцела паехаць, з цяжкасцю іх угаварыў.

Але, калі на месцы дырэктар музея даведаўся, што нам не патрэбныя экскурсія і хлеб-соль, мы хочам толькі сустрэцца з мясцовай адміністрацыяй, каб спытаць пра Дрыгву і перашкоды, якія чыняцца працы незалежнага журналіста, сустрэча раптоўна адмянілася.

Мы развіталіся з дырэктарам музея і перайшлі дарогу, каб завітаць да гарвыканкаму. Каля будынку стаялі два аўтобусы, вакол якіх тоўпіліся каржакаватыя мужыкі ў характэрных вязаных шапачках. З іх боку даносілася: «Гэй, прыдуркі, што вы там здымаеце? Сюды ідзіце, мы вам тут нешта пакажам!»

Адначасова з віскам да нас падкаціў мікраўтобус, адкуль выскачыла спадарыня Вераб'ёва: «Ды каб вы праваліліся, што вы тут усё ходзіце, што вы не супакоіцеся ніяк, што вы тут здымаеце! А ну выключай камеру, ты мае правы парушаеш, ты не маеш права мяне здымаць! Едзьце з горада, каб я вас тут больш не бачыла!»

Залішне казаць, што ў гарвыканкам нас не пусцілі, выштурхаўшы сілком на ўваходзе…

Брытанцы былі задаволеныя, што ў іх атрымалася зняць увесь гэты цырк. Але разам з тым яны былі вельмі спалоханыя.

«Цяпер вы ўбачылі сапраўдную Беларусь, зазірнулі за вылізаны фасад. Мінск — гэта ўсяго толькі намаляваны ачаг у жалю вартай каморцы Таты Карла. І за тым намаляваным ачагом уваход не ў тэатр, а ў пакой жахаў. Шкада толькі, што сталічныя журналісты вельмі мала цікавяцца правінцыйным жыццём», — смеючыся, сказаў Дзяніс Дашкевіч на развітанне.

1 красавіка 2016 | № 13 (478) Новы Час

**Калі праязджаеш на цягніку з Мінску ў напрамку на Гомель, у Бабруйску можна пабачыць цудоўнае рамантычнае месца — гаражы на беразе возера. «Вельмі прыгожае месца для пікнікоў і адпачынку», — можа замілавацца нехта. Аднак уладальнікам гэтых гаражоў такім ужо цудоўным яно не падаецца.**

**Гэты гаражны кааператыў паўстаў у 1986 годзе, фактычна, памылкова. З-за гэтай памылкі ўладальнікі гаражоў ледзьве не штогод нясуць страты. А ўлады Бабруйска ну аніяк не хочуць недарэчнасць выправіць, з-за чаго амаль дзве з паловай тысячы грамадзян могуць увогуле страціць сваю маёмасць агульным коштам каля 15 мільёнаў долараў.**



Возера ля гаражнага кааператыва

# Вашы гаражы можа змыць — вы і ратуйце

Сяргей ПУЛЬША

### Дом на пяску

Калісьці, за Саветамі, у гэтым месцы быў пясчаны кар'ер. Але ў 1985 годзе яго распрацоўка была скончаная. Па розуме і заканадаўстве, гэтае месца падлягала альбо заводжванню, альбо рэкультывацыі. Аднак у Бабруйску на той момант у чарзе на будаўніцтва гаражоў стаялі каля 5000 чалавек.

У гаражах расказваюць байку пра ўзнікненне кааператыва. Нібыта кіраўнік пясчанага кар'еру, які сам стаяў у чарзе па гараж, прыйшоў да гарадскіх начальнікаў, якія скардзіліся, што не могуць знайсці месца для гаражнай забудовы. І сказаў: «Вось вам выдатнае месца для гаражоў». У выніку ў кар'еры паўсталі два гаражных кааператывы, а чарга аўтааматараў скарацілася ўдвая.

Але на гэтым месцы гаражы будаваць было нельга, бо не было распрацавана дэталёвага плану забудовы гарадскога раёна. Такога дэталёвага плана на той момант не існавала, — ён з'явіўся толькі праз 20 гадоў, у 2006-м, дзе гаражы ўжо былі пазначаныя «па факце». Аднак у 1986-м бабруйскія ўлады настолькі былі радыя пазбавіцца двух галаўных боляў, — рэкультывацыі кар'ера і гаражнай чаргі, — што дазволілі грамадзянам будаваць дамкі для сваіх жалезных коняў без плана забудовы.

Грамадзяне ж нічога не ведалі ані пра месца, дзе ім дазволілі будавацца, ані пра адсутнасць планаў. Далі зямлю — будуй, пакуль назад не адабралі! І людзі пачалі забудову гэтага кар'ера.

Падпісаў рашэнне пра перадачу былога кар'ера для гаражнай забудовы тагачасны галоўны архітэктар Бабруйска Анатоль Нічкасаў. Той самы Нічкасаў, які пазней стаў міністрам архітэктуры і прамысловасці Беларусі, а зараз — надзвычайны і паўнамоцны пасол Рэспублікі Беларусь у Казахстане.

### Прыроду не падманеш

Бабруйск вырастаў, змяняліся ўлады, эканамічныя ўмовы. Два гаражных кааператывы аб'ядналіся ў адзін — СГК–10. Закрываліся бабруйскія прадпрыемствы, людзі ставілі лічыльнікі на ваду. Непадалёк ад гаражоў спыніла існаванне вайсковая частка. Спажыванне вады ў Бабруйску значна скарацілася. У сувязі з гэтым скарачэннем ля «гаражнага» раёна закрыўся водазабор №2 — 11 свідравінаў, якія месціліся за 600–1200 метраў ад гаражоў. Раней яны выпампоўвалі 15 тысяч кубаметраў грунтавой вады ў суткі.

Калі водазабор спыніўся, каля гаражоў натуральным чынам і ўтварылася тое самае прыгожае возера.

Гэта зусім не дадало радасці ўладальнікам гаражоў, бо пачаліся рэгулярныя падтапленні іх маёмасці. Зразумела, што вада збіраецца ў нізінах. Гэтай нізінай з'яўляецца кар'ер. А значыць, і гаражы разам з ім. Кожную вясну залівае гаражныя ямы. 2 455 чальцоў гаражнага кааператыва справядліва непакояцца, што іх маёмасць можа ўвогуле змыць.

Так рашэнне пра будаўніцтва гаражоў без плана забудовы і адпаведнага даследавання тэрыторыі стала галаўным болем для грамадзян.

Пра сур'ёзнасць праблемы сведчыць тое, што бабруйскае




Шыльда гаражнага кааператыва

> **«Белдзяржстрах» нават адмаўляўся страхаваць маёмасць, бо верагоднасць страхавога выпадку пры страхаванні гаражоў «практычна непазбежная»**

прадстаўніцтва «Белдзяржстраха» нават адмаўлялася заключаць дамовы на страхаванне маёмасці, бо, як напісана ў адказе гэтай арганізацыі, «верагоднасць наступлення страхавога выпадку пры страхаванні гаражоў у СГК–10 г. Бабруйска практычна непазбежная».

Ужо 15 гадоў грамадзяне патрабуюць ад уладаў выправіць памылку 30-гадовай даўніны. Менавіта столькі людзі вядуць перапіску з чыноўнікамі. І, падавалася б, гэтую праблему павінны разумець усе. У розныя дзяржаўныя органы — Бабруйскі гарвыканкам, Магілёўскі аблвыканкам, міністэрства па надзвычайных сітуацыях, Савет міністраў, КДК і пракуратуру — былі накіраваныя недзе паўтары сотні (!) лістоў з апісаннем праблемы, распавядае Сяргей Махлаеў, афіцыйны прадстаўнік спажывецкага гаражнага кааператыва. Аднак адказу, які б задаволіў чальцоў гэтага кааператыва, ніадкуль не атрымалі.

### Чырвоны ўзровень небяспекі

Пакуль толькі прырода дазваляе гэтаму кааператыву існаваць. Сяргей Махлаеў паказвае лічбы маніторынгу вады і ападкаў, якія кааператыў заказвае ў Магілёўаблгідрамеце. «Узровень ападкаў па Бабруйску за два апошнія гады быў ніжэй за норму: 84% у 2014 годзе і 78% — у 2015-м. Таму ўзровень вады знізіўся на 70 сантыметраў. На гэта спасылаюцца ўлады Бабруйска, пішучы нам, што «ў сённяшні час адсутнічаюць падставы для ацэнкі працэсу як надзвычайнай сітуацыі». Аднак у папярэднія гады ўзровень ападкаў стабільна падвышаўся. 107% ападкаў выпала ў 2008-м, 130% — у 2009-м, 103% — у 2010-м, 123% — у 2012-м, 103% — у 2013-м», — распавядае Махлаеў.

І калі спрыяльныя прыродныя ўмовы скончацца, затапленне гаражоў стане надзвычайнай сітуацыяй рэспубліканскага маштабу. Як напісана

ў законе пра папярэджванне надзвычайных сітуацый, «да рэспубліканскай (дзяржаўнай) адносіцца надзвычайная сітуацыя, у выніку якой пацярпелі больш за 500 чалавек, альбо парушаныя ўмовы жыццядзейнасці больш за 500 чалавек, альбо матэрыяльны ўрон складае звыш 0,5 мільёна базавых велічынь на дзень узнікнення надзвычайнай сітуацыі». Зараз гаражны кааператыў падпадае пад усе гэтыя пункты: пацерпяць 2 455 сябраў кааператыву і матэрыяльны ўрон будзе больш 0,5 мільёна базавых велічыняў.

Улада, як той мужык, не хрысціцца, пакуль гром не грымне. А сябры кааператыва папярэджваюць: калі грымне, будзе ўжо позна.

### Ігнараванне «на месцах»

Дзеля справядлівасці, варта заўважыць, што не ўсе чыноўнікі ігнаруюць клопат гаражнага кааператыва пра недапушчэнне надзвычайнай сітуацыі рэспубліканскага маштабу. З гэтым клопатам Сяргей Махлаеў дайшоў нават да намесніка прэм'ер-міністра Анатоля Калініна і міністра па надзвычайных сітуацыях Уладзіміра Вашчанкі.

У 2014 годзе Савет Міністраў, а дакладней, камісія па надзвычайных сітуацыях Саўміна, выдала загад Магілёўскаму аблвыканкаму «прааналізаваць ступень выканання (рэалізацыі) мерапрыемстваў Генеральнага плана Бабруйска... у частцы ліквідацыі Бабруйскім гарвыканкамам прычын і ўмоў, што спрыяюць узнікненню надзвычайнай сітуацыі, звязанай з падтапленнем СГК–10 Бабруйска... Для прыняцця аб'ектыўнага рашэння забяспечыць правядзенне даследаванняў і інжынерных гідрагеалагічных вышукаў з мэтаю высвятлення сапраўдных прычын падтаплення. Пры неабходнасці арганізаваць праверку Бабруйскага гарвыканкама ў галіне абароны насельніцтва і тэрыторый ад надзвычайных сітуацый».

Магілёўскі аблвыканкам у адказ піша, што «неадназова даручалася СГК–10 сумесна з Бабруйскім гарвыканкамам разглядзець пытанне пра неабходнасць дадатковых інжынерных і гідрагеалагічных вышукаў кар'ера з мэтаю забяспечання неабходнага віду работ, скіраваных на водапанiжэнне, і прыняцця дзейсных захадаў, якія выключаюць узнікненне надзвычайнай сітуацыі на тэрыторыі СГК–10».

Міністэрства па надзвычайных сітуацыях нават правяло выязное пасяджэнне па пытанні падтаплення СГК–10. Ягоным вынікам стаў адказ, што «сітуацыя не класіфікуецца як надзвычайная, аднак штогадовы прырост узроўню грунтавых водаў... сведчыць пра наяўнасць перадумоў да ўзнікнення надзвычайнай сітуацыі». У сувязі з гэтым МНС унесла прадстаўленне ў Бабруйскі гарвыканкам «пра скасаванне прычынаў і ўмоў, што садзейнічаюць узнікненню надзвычайнай сітуацыі і неабходнасці прыняцця дзейсных захадаў па вырашэнні дадзенай праблемы».

У прадстаўленні МНС гарвыканкаму Бабруйска, дарэчы, кажацца, што «прымаемыя Бабруйскім гарвыканкамам захады па згаданым пытанні неэфектыўныя, да сённяшняга часу не выяўлены пералік прычын павышэння грунтавых водаў, а таксама не вызначаны шляхі выйсця з сітуацыі, якая склалася».

Аднак усё, што зрабіў Бабруйскі гарвыканкам, — гэта толькі арганізаваў замеры ўзроўню грунтавых водаў на тэрыторыі СГК–10. Ані пра якія інжынерныя і гідрагеалагічныя работы размова не ідзе.

### Пакуль гром не грымне...

Замест таго, каб правесці належныя даследаванні тэрыторыі і вызначыць, што трэба для недапушчэння надзвычайнай сітуацыі, ад уладаў Бабруйска паступілі некалькі ідэй. Дзеля скасавання падтапленняў яны рэкамендуюць падсыпаць плошчу кааператыву, павышаючы такім чынам узровень зямлі над вадою. Альбо надбудоўваць гаражы. Альбо адвесці ваду праз каналізацыю. Альбо ўвогуле ліквідаваць кааператыў і перанесці яго ў іншае месца.

Што тычыцца падсыпкі і ўмацавання берагоў возера, то гэта кааператыў робіць і без парадаў чыноўнікаў. «Але гэта нічога не дае. Па-першае, дарогі і так падсыпаныя ўшчыльную да варотаў гаражоў. Калі гэтую дзейнасць працягваць, то вароты ў людзей проста не адкрыюцца. Па-другое, гэта ж школьны курс фізікі. Вада падымаецца па прынцыпе злучаных сасудаў. І грунтавыя воды ўсё роўна прасочваюцца ў гаражныя ямы, затапляючы іх», — тлумачыць Махлаеў.

Чальцы гаражнага кааператыва прапрацоўвалі і пытанне адводу вады ў каналізацыю. Аднак з мясцовага дарожна-эксплуатацыйнага прадпрыемства яны атрымалі адказ, што мясцовая «лiўнёўка» не разлічаная на дадатковыя нагрузкі: «Далейшая прапрацоўка гэтай ідэі таксама немэтазгодная, улічваючы дарагавізну яе складнікаў у частцы будаўніцтва дадатковых водаачышчальных збудаванняў, насоснай установкі з павышэннем узроўню каля 20 метраў, устаноўкі вадамера» і гэтак далей. Надбудова гаражоў? Гэта ўсё роўна, што будаваць новыя гаражы. Роўна як і «ліквідаваць кааператыў». Калі яго ліквідуюць, хто выплаціць людзям кампенсацыю за страчаную маёмасць? Бо страчаная яна ж будзе не па іх правіне, а з-за таго, што ўлады, насуперак заканадаўству, калісьці выдзелілі грамадзянам пад забудову неналежнае месца.

«Зараз па Бабруйску ёсць абвесткі аб продажы гаража за 6000 долараў. Вось і лічыце кошт пытання: 2 455 чальцоў кааператыва памножым на 6000 — каля 15 мільёнаў долараў», — кажа Махлаеў.

### Справа, як заўсёды, у грошах?

Сяргей Махлаеў, з аднаго боку, разумее бабруйскія ўлады. І самі сябры кааператыва цікавіліся, колькі ж каштуе даследаванне тэрыторыі. У цэнах 2014 года — гэта мільярд рублёў. Каля ста тысяч долараў. Грошы, канешне, немалыя.

Тым не менш, упэўнены Махлаеў, знайсці іх можна. Кааператыў поўнасцю, — нават тыя, хто не карыстаецца гаражамі, — спраўна сплачвае і зямельны падатак, і падатак на нерухомасць. Агулам гэта якраз і выходзіць мільярд у год. Аўтааматары плацяць падвойны падатак «на дарогі» — сам падатак і акцызы на бензін — і падаражэлы нядаўна тэхагляд... Улада магла б ужо і прыслухацца да такіх шчырых і шчодрых падаткаплацельшчыкаў.

«Сродкі на папярэджанне — падкрэсліваю, не ліквідацыю, а папярэджанне — надзвычайных сітуацый штогод закладаюцца ў бюджэт, гэта прадугледжана Бюджэтным кодэксам. У тым жа кодэксе (артыкул 42 «Рэзервовыя фонды», пункт 5) таксама кажацца: «Сродкі рэзервовых фондаў Урада Рэспублікі Беларусь і мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў выдаткоўваюцца на папярэджанне і ліквідацыю наступстваў надзвычайных сітуацый». Так што пры жаданні ўлада магла б знайсці грошы на тое, каб вызначыцца, як прадухіліць надзвычайнае здарэнне, зрабіць так, каб яго не было ўвогуле», — тлумачыць Махлаеў.

Канешне, сярод прапаноў гарвыканкама сябрам кааператыва была і такая: «Вашы гаражы? Вы і скіньцеся на гэтыя гідрагеалагічныя работы». Але Махлаеў упэўнены, што гэта — абавязак не людзей, а ўлады перад людзьмі. «Ёсць, па-першае, закон аб мясцовым кіраванні і самакіраванні, згодна якому ў кампетэнцыю мясцовых уладаў уваходзіць абавязак па ліквідацыі і папярэджанні надзвычайных сітуацый. Па-другое, закон аб абароне насельніцтва і тэрыторый ад надзвычайных сітуацый таксама накладае на мясцовыя ўлады абавязак прымаць меры па папярэджанні надзвычайных сітуацый.



Грамадзяне ўмацоўваюць берагі возера будаўнічым смеццем, але дапамагае гэта мала



Затопленая тэхнічная яма ў адным з гаражоў

**Сярод прапаноў гарвыканкама была і такая: «Вашы гаражы? Вы і скіньцеся на гэтыя гідрагеалагічныя работы». Але Махлаеў упэўнены: гэта — абавязак улады**

Па-трэцяе, гэта ж не быў самазахоп тэрыторыі: улады выдзялялі гэтую зямлю, тым больш з парушэннем заканадаўства. І абавязак улады — выправіць памылку», — лічыць Махлаеў

Такім чынам, дэ-факта сябры СГК–10 патрабуюць аднаго: выканання заканадаўства, рашэння Савета Міністраў і Міністэрства па надзвычайных сітуацыях. «Трэба правесці інжынерныя і гідрагеалагічныя вышукі, як было напісана ў паперы за подпісам намесніка прэм'ер-міністра Калініна, і міністра па надзвычайных сітуацыях Беларусі Вашчанкі», — настойвае Махлаеў.

Зразумела, аднымі даследаваннямі праблему падтаплення СГК–10 не вырашыш. З-за таго, што будуць праведзеныя гідрагеалагічныя вышукі, вада не перастане збірацца ў тэхнічных ямах гаражоў сябраў кааператыва. Але, па словах Махлаева, потым ужо ад гэтага можна будзе «плясаць далей».

«Потым адпаведная праектная арганізацыя павінна выпрацаваць рашэнне: што рабіць? На якім узроўні грунтовыя воды, ці варта іх адкачваць, куды іх адкачваць, якім чынам гэта рабіць. Можа, гэта сапраўды будзе вельмі дарагая праца, і можа, людзям прасцей будзе выплаціць кампенсацыю за гэтыя гаражы? І нават калі выплачваць кампенсацыю, гэта трэба прымаць рашэнне «наверсе», калі не кіраўніком дзяржавы, але каля таго. А можа, абыдзецца водаадводам. Але, зноў жа, гэтае рашэнне трэба прымаць на падставе даследаванняў і вышукаў, і прымаць яго павінны кампетэнтныя арганізацыі», — кажа Махлаеў.

### Рука руку мые?

Як бачна, людзі не патрабуюць ад Бабруйскага гарвыканкаму нічога, што б не патрабавалі ад яго вышэйшыя ўлады. І, тым не менш, чыноўнікі нічога не робяць. Чаму?

«Чаму не хочуць гэта рабіць? Чыноўнікі не хочуць гэтым займацца, таму што трэба шукаць грошы ў бюджэце, а значыць, даводзіць пытанне ледзьве не да прэзідэнта. Ніхто не хоча пазбавіцца сваёй пасады, высвятляць, з-за чыіх памылак гэтая сітуацыя склалася», — кажа Махлаеў.

А сапраўды, з-за чыіх памылак? «Анатоль Нічкасаў, які ад пачатку памыліўся з месцам кааператыва, быў міністрам архітэктуры, зараз — пасол у Казахстане. Першы намеснік Магілёўскага гарвыканкама Анатоль Чорны, які пісаў нам адпіскі па гэтым пытанні, зараз — міністр архітэктуры і будаўніцтва краіны. За апошнія два гады бабруйскае гарадское і магілёўскае абласное кіраўніцтва два разы змянілася. А нашае пытанне — на тым жа месцы», — зазначае Махлаеў.

### Калі гром грымне

А вось калі гром грымне, і гэты гаражны кааператыў затопіць, улады павінны будуць кампенсаваць людзям іх страты. І гэта, як ужо казалася, каля 15 мільёнаў долараў. А ўсё таму, што на шматлікія папярэджанні пра магчымасць гэтай надзвычайнай сітуацыі яны ўвагі не звярталі.

«Нават калі мы потым будзем дамагацца кампенсацыі праз суд — у нас ёсць усе паперы. Тое, гаражы, гэта не самабудоўля — гэта факт. Зямлю нам выдзелілі з памылкай — але гэта памылка ўлады, а не людзей. Мы папярэджвалі ўлады пра магчымую надзвычайную сітуацыю — гэта факт. Мы рабілі ўсё, каб яе не адбылося, — гэта факт. І тое, што ўлада да нас шматкроць не прыслухоўвалася — таксама факт. У выніку суд будзе проста абавязаны прызнаць, што ўлада парушыла заканадаўства, і, больш за тое, не рэагавала на неадназовыя папярэджанні аб магчымасці надзвычайнага становішча. А ў гэтым выпадку могуць быць не толькі маёмасныя зыскі, але і, верагодна, крымінальная адказнасць за службовую нядбайнасць, якая пацягнула за сабой прычыненне шкоды ў асабліва буйным памеры», — канстатуе Махлаеў.

Пакуль гром не грымнуў, яшчэ можна выправіць сітуацыю. Можа, гэта будзе дорага. Але калі грымне — усё роўна даражэй выйдзе. Усяго толькі варта — прыслухацца да грамадзян і, урэшце, выканаць тыя пастановы, якія неадназова ім прапанавалі выканаць.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### БАШКАРТАСТАН. Грошай на пасольствы нестае

У Стамбуле і Астане рашэннем ураду зачыненыя гандлёвыя прадстаўніцтвы аўтаномнай рэспублікі, якія ў мясцовай прэсе называлі «башкірскія пасольствы». Так, гандлёвае прадстаўніцтва Башкартастана пры расійскім федэральным гандлёвым прадстаўніцтве ў Астане, што было адкрыта ў 2004 годзе, акрамя гандлёва-эканамічных пытанняў, актыўна займалася інфармацыйным і культурным супрацоўніцтвам. Афіцыйная прычына для закрыцця башкірскіх устаноў за мяжой — эканомія бюджэтных сродкаў. Між тым, башкірскія нацыяналісты лічаць, што эканамічны фактар — не самае важнае. На іх думку, закрыццё прадстаўніцтваў — працяг палітыкі Масквы па перапыненні духоўна-культурных і іншых сувязяў паміж цюркамоўнымі народамі. Масква, сапраўды, намагаецца ўзяць пад кантроль кантакты цюркамоўных аўтаномных рэспублік з цюркскімі дзяржавамі. Калі раней расійскія татары і башкіры кантактавалі з той жа Турцыяй аўтаномна, то цяпер павінны атрымаць санкцыю на такія кантакты ў цэнтры. Між тым, Масква аспрэчвае такую крытыку са спасылкай на тое, што раней башкірскае гандлёвае прадстаўніцтва з-за эканамічных праблем спыніла дзейнасць у Санкт-Пецярбургу.

**Паводле казахскай прэсы**

### БОСНІЯ і ГЕРЦАГАВІНА. Чые бабры лепшыя?

У Босніі і Герцагавіне амаль нацыянальнае свята. Пасля 150 гадоў у край вярнуліся бабры. З'яўленне іх калоніі на рэчцы Яланіца (Jalanica), што на мяжы з Харватыяй, стала нацыянальнай падзеяй. Мясцовасць нават наведаў прэм'ер-міністр. Уся гэта гісторыя выклікала вялікі інтарэс да баброў увогуле. Газеты, што публікуюць шмат інфармацыі пра гэтых жывёл, натуральна, не маглі прайсці міма вядомага інцыдэнту, які меў месца ў Беларусі ў 2013 годзе. Тады пад Брэстам пасля ўкусу бабра памёр рыбак. Нягледзячы на тое, што ахвярай бабра быў п'яны чалавек, які нават спрабаваў атакаваць жывёлу, у мясцовых СМІ ўсе вырашылі — беларускія бабры вельмі злыя, у адрозненне ад баснійскіх. Гэты тэзіс выклікаў яшчэ большае масавае захапленне бабрамі. Увогуле, такая думка — не дзіўная з улікам таго, што па-баснійску бабры называюцца «dabrove», што практычна гучыць як «дабро».

**Паводле баснійскай прэсы**

### БЕЛЬГІЯ. Дзяржаўнасць на службе тэрарыстаў

Нечаканыя высновы зрабіла заходняя прэса, аналізуючы прычыны тэракту ў Брусэлі. У пошуках адказу на пытанне, чаму бельгійскія спецслужбы праспалі выпазкі тэрарыстаў, аналітыкі не толькі канстатуюць, што Бельгія пабіла рэкорды па колькасці экстрэмістаў на душу насельніцтва — за «Ісламскую дзяржаву» (ISIS) з 11-мільённай краіны адправіліся ваяваць каля 500 асоб (з 60-мільённай Вялікабрытаніі, напрыклад, — каля 750 чалавек). Усе таксама адзначаюць, што кампетэнтныя органы Бельгіі вельмі абыякава ставіліся да паведамленняў агентуры і простых грамадзян наконт актывізацыі рэлігійных фанатыкаў. Чаму? Гэта звязваюць у тым ліку з доўгім крызісам бельгійскай дзяржаўнасці. З-за сабатажу нацыяналістычных рухаў франкафонаў і фламандцаў, цэнтральны ўрад, і ў тым ліку ўстановы, што адказваюць за барацьбу з тэрарызмам, вельмі слабыя. Па сутнасці, заключае прэса, сілавікі ў краіне думаюць выключна ў маштабах свайго рэгіёну і надаюць асноўную ўвагу мясцоваму крыміналу. СМІ не робяць выснову наконт таго, што бельгійская дзяржаўнасць спрыяе руху тэрарыстаў, аднак гэта ахвотна робяць каментатары на інтэрнэт-форумах. На іх думку, падзел краіны на дзве дзяржавы дапаможа стварыць на тэрыторыі цяперашняй Бельгіі больш эфектыўныя структуры для барацьбы з тэрарыстычным выклікам.

**Паводле брытанскай прэсы**

### УКРАІНА. Трагедыя зоркі Майдану

Нацыянальная паліцыя Украіны 25 сакавіка абвясціла ў вышук былога старшыню Дзяржаўнага агенцтва па інвестыцыях і кіраванні нацыянальнымі праектамі Уладзіслава Каськіва. Яго вінавацяць у тым, што ён скраў бюджэтныя грошы, падпісаўшы пагадненне з іспанскай кампаніяй «Gas Natural» наконт інвестыцый ва Украіну. Пазней іспанскі бок заявіў, што не ведае чалавека, які ад іх фірмы падпісаў кантракт. Аднак на той момант Украіна ўжо выдаткавала з бюджэту грошы, якія зніклі невядома куды. Фішка, аднак, у іншым. Каськіў — не проста чыноўнік-карупцыянер, а ледзь не галоўная зорка Майдана 2004 года. Падчас «аранжавай рэвалюцыі» ён кіраваў моладзевым рухам «Пора», што меў каласальную папулярнасць. Нейкі час у яго шэрагах быў Віталь Клічко — цяперашні кіеўскі мэр. З часам рух разваліўся, а яго лідар дакаціўся да фігуранта карупцыйнага скандалу. Хочацца спадзявацца, што гэта гісторыя будзе ўрокам для герояў апошняга Майдану. Застаецца дадаць, што Каськіў, які зараз жыве ў Вене, кажа, што на радзіме яго пераследуюць праз палітыку.

**Паводле ўкраінскай прэсы**



Фота www.soccer.com

# Еўра без гледачоў

Алег НОВІКАЎ

**Наколькі рэальныя перасцярогі некаторых кіраўнікоў UEFA наконт таго, што з-за пагрозы атак тэрарыстаў запланаваны на лета чэмпіянат Еўропы па футболу можа прайсці пры пустых трыбунах?**

Праўда, нядопуск фанатаў на стадыёны Францыі, дзе з 10 чэрвеня па 10 ліпеня павінен прайсці чэмпіянат, — гэта яшчэ не самы змрочны для заўзятараў варыянт. Тымі ж чыноўнікамі UEFA агучана прапанова — увогуле адмяніць турнір да таго часу, пакуль узровень тэрарыстычнай пагрозы ў Еўрасаюзе крыху не знізіцца. Сама заява пра магчымыя змены ў фармаце Еўра–2016 (яе аўтар, дарэчы, не шараговы клерк, а дырэктар турніру Марцін Кален) прагучала 23 сакавіка, літаральна па гарачых слядах тэракту ў Бельгіі. Выпадкова заява была агучана тады, калі да пачатку спаборніцтваў заставалася роўна сто дзён.

Нельга сказаць, што Кален не мае рацыі, выступаючы за турнір без гледачоў. Пра тое, што тэрарысты не пройдуць міма такога буйнага мерапрыемства, як Еўра–2016, ускосна сведчаць тыя ж лістападаўскія тэракты ў Парыжы. Адным з аб'ектаў атак тэрарыстаў стаў спартовы комплекс Stade de France, дзе праходзіў матч зборных Францыі і Германіі. А ўжо праз пару тыдняў з-за падазрэння пра магчымы выбух была скасаваная гульня Германіі і Нідэрландаў у Гановеры. Прываблівае на стадыёны экстрэмістаў і тое, што вядомыя заходнія палітыкі для падтрымкі рэйтынгу завялі моду наведваць нацыянальныя матчы зборных.

Акрамя тэрарыстаў у апараце UEFA таксама кажуць пра магчымыя тэхнічныя і бытавыя складанасці, якія могуць узнікнуць у кантэксце апошніх падзей. Для тых, хто забыўся, — у Францыі з лістапада дзейнічае надзвычайнае становішча, якое наўрад ці цалкам скасуюць да лета. З-за татальнага кантролю звычайныя працэдурныя праверкі могуць расцягнуцца на цэлыя гадзіны. Як вынік — заўзятары могуць проста не паспець своечасова трапіць на стадыён. Напружаную атмасферу падчас праверак будуць таксама ўскладняць футбольныя фанаты, якіх хлебам не кармі — дай пабіцца з паліцыяй.

Найбольшы хаос ужо зараз чакаецца на фінальнай кубкавай стадыі, дзе супернікі ў гульнях вызначаюцца практычна ў апошні момант. Гэта значыць, што тыфозі масава і вельмі хутка будуць рухацца з гораду ў горад. Каб кантраляваць такое «перасяленне народаў», спатрэбіцца каласальная мабілізацыя сіл правапарадку.

І гэта яшчэ не ўсё. Дадатковы галаўны боль арганізатараў Еўра–2016 — так званыя фан-зоны. Гэта новая практыка масавага прагляду матчаў на вялікім экране ў адкрытым публічным месцы, якое, як правіла, знаходзіцца ў цэнтры буйных гарадоў. Спатрэбіцца знайсці механізм кантролю і ў тых зонах, якія збіраюць тысячы чалавек.

**Найбольшы хаос ужо зараз чакаецца на фінальнай кубкавай стадыі, дзе супернікі ў гульнях вызначаюцца ў апошні момант**

Нарэшце, існуе яшчэ адзін чыннік, што працуе на карысць правядзення турніру без гледачоў. Гэта кадравая свістапляска ў кіраўніцтве еўрапейскага і сусветнага футболу, выкліканая серыяй карупцыйных скандалаў. Яе вынікам стала адстаўка старых адміністратараў, якія, акрамя цягі да хабараў, таксама мелі каласальны арганізацыйны вопыт і карысталіся ў тым ліку палітычным аўтарытэтам. Вельмі спрэчна — ці здольныя іх пераемнікі, імёны якіх нічога не гавораць, браць на сябе адказнасць у патрэбны момант. Тое ж можна закінуць і французскім уладам. Кожны тэракт у краіне б'е па шансах прэзідэнта Франсуа Аланда пераабрацца ў наступным годзе. Магчыма, таму прапанову пра чэмпіянат без гледачоў асцярожна падтрымаў дырэктар французскага МУС Бернар Казнеў.

Адзінае, што дазваляе захоўваць заўзятарам надзею на нармальны чэмпіянат, гэта той факт, што пра пытанне дадатковых мераў бяспекі на Еўра–2016 узгадалі не зараз. Аказваецца, што адразу пасля тэрактаў у Парыжы на базе французскага МУС і UEFA была створаная экспертная група, якая занялася згаданай праблемай.

Канкрэтным вынікам яе працы сталі рэкамендацыі, разглядзеўшы якія арганізатары турніру вырашылі ўзняць бюджэт артыкулу «бяспека» на 15 працэнтаў. Зараз ён складае каля 34 мільёнаў еўра. За кошт дадатковых сродкаў было вырашана давесці агульную колькасць ахоўнікаў на стадыёнах да 10 тысяч чалавек. Запланавана, што падчас кожнага з 51 матча, які пройдзе ў рамках Еўра–2016, на трыбунах будзе знаходзіцца каля 900 асобаў у цывільным. Таксама для таго, каб трапіць на стадыён, давядзецца праходзіць падвоены кантроль.

Думаецца, аднак, што галоўным аргументам за традыцыйную (з гледачамі) формулу Еўра–2016 з'яўляецца пазіцыя заўзятараў. Калі меркаваць па інтэрнэт-форумах, для аматараў футболу паход на матчы Еўра–2016 — не толькі праява павагі да любімай каманды, аднак і грамадзянскі ўчынак, пратэст супраць паранойі, якую якраз і намагаюцца пасеяць тэрарысты ў Еўропе.

Як піша брытанскі «Guardian», спрэчку паміж прыхільнікамі чэмпіянату без гледачоў і апанентамі вырашаць таварыскія матчы зборных увесну. Калі нічога экстраардынарнага не адбудзецца, схему правядзення турніру мяняць не будуць. Пра тое, што ў UEFA яшчэ няма канчатковай пазіцыі, таксама сведчыць змест афіцыйнага прэс-рэлізу, які днямі разаслала Федэрацыя. У дакуменце ні слова пра тое, што чэмпіянат пройдзе без заўзятараў. Аўтары абстрактна пішуць пра тое, што «праблема бяспекі будзе знаходзіцца ў цэнтры арганізацыйных планаў падчас падрыхтоўкі Еўра–2016».

# Страсці па «Гумарыне»

Алег НОВІКАЎ

**У змене фармату славутай адэскай «Гумарыны» шмат хто ва Украіне бачыць палітычны падтэкст. Пра падрабязнасці скандалу распавядае адэскі мастак Аляксандр Шаўчук.**


Фота www.ukraina.bezsekretov.com


Фота www.km.ru

***— Чым увогуле новы фармат «Гумарыны» адрозніваецца ад папярэдняга?***

— «Гумарына», як вядома, паўстала ў 1973 годзе і ўжо праз тры гады трапіла пад забарону, каб адрадзіцца толькі ў часы Перабудовы. Яе цвіком было карнавальнае шэсце па Дзерыбасаўскай, калі кожны ўдзельнік акцыі мог нейкім чынам прадставіць сябе. Такая схема захоўвалася практычна да 2014 года, калі з-за складанай сітуацыі ў краіне было вырашана афіцыйных мерапрыемстваў не праводзіць. Праўда, некаторыя энтузіясты ўсё роўна спрабавалі 1 красавіка займацца вулічнай «самадзейнасцю». Вырашылі адмовіцца ад «Гумарыны» і ў мінулым годзе. Цяпер «Гумарына» вяртаецца, аднак ужо без традыцыйнага шэсця. У мэрыі думаюць абмяжавацца так званымі «лакацыямі» — канцэртнымі кропкамі і вялікім фінальным канцэртам ля помніка Дзюку.

***— Чым у мэрыі матывуюць забарону шэсця?***

— Матывуючы такое рашэнне, у мэрыі паскардзіліся, што ў натоўпе гледачоў мінулых гадоў назіраецца мала вясёлых касцюмаў, ад вялікіх шэсцяў не дасягаецца патрэбнага эфекту. Таму іх і вырашылі згарнуць. Увогуле, у мэрыі шмат планаў наконт «Гумарыны» аж да таго, каб перанесці свята на больш цёплую пару года, паколькі 1 красавіка ў Адэсе ўсё ж яшчэ холадна, і гэта сапраўды стрымлівае турыстаў. У якасці новай даты прапануецца 1 мая. Як кажа адзін з чыноўнікаў, Адэса ў гэты дзень магла б паказаць свету, што гэта не свята працоўных, а свята вясёлых працоўных. Рэформу абяцаюць ужо на наступны год.

***— У адэскіх выданнях можна сустрэць незвычайны тэзіс. Некаторыя адэсіты выступаюць за захаванне «неафіцыйнага» фармату «Гумарыны», які меў месца апошнія два гады. Маўляў, афіцыйная «Гумарына» ператварылася ў нейкую вакханалію алкагалізму і нізкай культуры.***

— Прыкладна з часоў мэра Гурвіца «Гумарына» сапраўды стала камерцыйнай акцыяй, якую шырока падтрымлівалі піўныя кампаніі. Таму 1 красавіка цэнтр горада быў перапоўнены ў тым ліку п'янай правінцыйнай моладдзю, якая паводзіла сябе трошкі нахабна і некультурна. Гэта заўсёды выклікала бытавы пратэст сярод адэсітаў, якім хочацца больш камернага, душэўнага фармату свята. Акрамя таго, адчуваецца настальгія па старых «Гумарынах» 1970–1980-х гадоў.

***— Чаму некаторыя лічаць, што забарона шэсця на 1 красавіка — палітычнае рашэнне?***

— Гэта пазіцыя апазіцыйнага антымайданаўскага лагеру. Сцвярджаецца, што гарадская ўлада баіцца, што падчас вулічнага карнавалу будзе гучаць жорсткая крытыка на адрас Кіева, дзе хапае неадэкватных палітыкаў. Актыўна праводзіцца паралель з часамі румынскай акупацыі падчас Другой сусветнай вайны, калі ў горадзе таксама дзейнічала суровая забарона на культурныя імпрэзы.

Што можна на гэта сказаць? Калі шчыра, лепшыя «Гумарыны» 1970-х – першай паловы 1980-х гадоў, сапраўды, былі глытком свабоды ў застойным грамадстве, насілі прыкметы смехавага палітычнага пратэсту. І адэскі гумар — гэта не пустое зубаскальства, а заўсёды — сарказм з нагоды. А нагодаў для смеху з нашых чыноўнікаў проста мора. Як кажуць на Прывозе: «У нас цяпер круглы год «Гумарына».

З іншага боку, відавочна, што ў мэрыі няма сродкаў для арганізацыі «Гумарыны», як раней. Акрамя шэсця, улады адмовіліся ад іншых імпрэзаў — аўтапрабегу старых аўтамабіляў, абавязковых кінакамедый у кінатэатрах і камедый у тэатрах, адкрыцця новай скульптуры ў адным з паркаў, шматлікіх конкурсаў. Нават запрасіць Міхаіла Жванецкага і іншых вядомых артыстаў камічнага жанру няма грошаў. Таму, думаецца, што палітычны аспект не быў на першым месцы, калі абмяркоўвалі новы фармат свята.

***— Як ацэньваюць новы фармат «Гумарыны» прамайданаўскія партыі?***

— Як не дзіўна, нацыяналісты таксама крытыкуюць новую формулу «Гумарыны». Праўда, у іх іншы падыход. На іх думку, смяяцца падчас вайны на Усходзе, адкуль стала ідуць пахаронкі, амаральна. Таксама звяртаецца ўвага на тое, што раней «Гумарына» адзначалася толькі 1 красавіка, а ў гэтым годзе, калі ў краіне гінуць людзі, чамусьці вырашаюць падоўжыць святкаванне аж да 3 красавіка. На думку прамайданаўскіх сіл, гэта проста ні ў якія рамкі прыстойнасці не ўваходзіць. Нацыяналісты таксама пужаюць мэрыю перспектывай масавых беспарадкаў падчас «Гумарыны», якія могуць арганізаваць прарасійскія палітсілы.

***— Чаго, на вашу думку, можна чакаць ад «Гумарыны–2016»?***

— Што б ні пісалі палітыкі, людзі ўсё роўна выйдуць у цэнтр. Адэса ў любым выпадку будзе смяяцца. Я асабіста думаю, што вельмі шмат жартаў будзе з нагоды таго, што менавіта ў Дзень дурня газ для ўкраінцаў падаражае на 60 працэнтаў.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ



### Джэм Аздэмір

Сустаршыня нямецкай партыі «Зялёныя» — этнічны турак — пераплюнуў усіх нямецкіх палітыкаў, якія зараз спаборнічаюць у нефармальным турніры, хто больш жорстка пракаментуе незвычайны крок турэцкай дыпламатыі ў абарону Эрдагана. Як вядома, турэцкі гарант — вельмі ранімая асоба. Не дарма, калі верыць брытанскай прэсе, турэцкая пракуратура вядзе процьму спраў па артыкулу "Абраза асобы прэзідэнта". Аднак найбольш абразіла Эрдагана рэдакцыя нямецкага сатырычнай праграмы «Extra3», якая выходзіць на канале NDR. У сярэдзіне сакавіка на «Extra3» прагучала песня, якая высмейвае аўтарытарныя тэндэнцыі турэцкай улады, у прыватнасці арышты журналістаў. Не зразумела, адкуль на Басфоры даведаліся пра тую песню, але Эрдаган адчуў, што яго абразілі. Прычым настолькі, што 28 сакавіка турэцкі МЗС нават выклікаў да сябе нямецкага пасла, патрабуючы, каб той паўплываў на аўтараў «Extra3». Цяжка зразумець, які вынік хацела б атрымаць Анкара ад такіх дэмаршаў. Пакуль адзіным вынікам скандалу стаў каласальны рост прагляду роліка ў сецыве і каскад пытанняў: ці патрэбна Еўрасаюзу кааперацыя з Турцыяй? Прынамсі Аздэмір прапанаваў лідарам ЕС тэрмінова запатрабаваць ад Эрдагана прабачэння. Паводле яго слоў, калі б «Зялёныя» былі ў цяперашнім нямецкім урадзе, Германія патрабавала ад Анкары за гэта афіцыйнага прабачэння.

### Артур Платонаў



Вядучы казахстанскага дзяржаўнага тэлебачання — найбольш яркая фігура ў складзе новага казахстанскага парламента, спіс дэпутатаў якога нядаўна зацвердзілі. Увогуле, Платонаў — далёка не адзіны герой эфіру, які раптам падаўся ў палітыку. У партыйны спіс прэзідэнцкай партыі «Нур Атан» увайшлі алімпійскія чэмпіёны, акторы, спевакі і нават баксёры. Можна казаць, што мы маем справу з нейкім ноу-хау казахскай улады, якая намагалася за кошт пазнавальных у соцыуме фігур выклікаць у грамадстве інтарэс да выбараў, вынікі якіх былі вядомыя далёка да дня галасавання. Нагадаем, што апошнія выбары 20 сакавіка прадказальна прынеслі перамогу тром праўладным партыям. Пры гэтым, уводзячы ў выбарчыя спісы розных артыстаў, чыноўнікі былі згодныя на самыя рызыкоўныя праекты. Платонава, напрыклад, падазраюць у нетрадыцыйнай сексуальнай арыентацыі. Думаецца, што такія забабоны ў народзе прыпісваюць шмат якім больш-менш вядомым зоркам, аднак, у любым выпадку, гэта робіць Артура Платонава вельмі не стандартным дэпутатам. Наколькі стаўка на артыстаў, баксёраў і вядучых сапраўды выклікала інтарэс абывацеля да выбарчай кампаніі, цяжка сказаць, бо ў краіне адсутнічаюць незалежныя сацыялагічныя кампаніі.



### Фідэль Кастра

Лідар кубінскай рэвалюцыі нарэшце пракаментаваў вынікі візіту Барака Абамы на Кубу, які шмат хто разглядае як сімвалічны канец халоднай вайны. Сам Фідэль Кастра ў час візіту на публіцы не з'яўляўся, і цяпер зразумела, з якіх прычынаў. У адрозненне ад большасці каментатараў, ён лічыць візіт Абамы спробай Вашынгтона вярнуць Кубу ў сваю арбіту. На думку Кастра, тэзіс Абамы пра тое, што абедзве краіны павінны забыць мінулае, — замах на рэвалюцыйную традыцыю Кубы. «Хай ніхто не будуе ілюзій адносна таго, што наш высакародны і самаадданы народ адмовіцца ад сваёй славы і сваіх правоў, ад духоўнага багацця, якія ён стварыў, развіваючы адукацыю, навуку і культуру. Нам не трэба, каб імперыя нам нешта дарыла», — піша Кастра ў артыкуле для газеты «Granma». Цалкам магчыма, што на такую пазіцыю Фідэля паўплывала рашэнне Белага дома, зробленае адразу пасля заканчэння візіту Абамы. Паводле яго, у ЗША ствараецца спецыяльная праграма для кубінскай моладзі. Цяпер маладыя кубінцы з якасцямі лідараў змогуць бясплатна наведваць ЗША, знаёміцца з тым, як працуе дэмакратыя. На думку прэсы, такая праграма, бюджэт якой складае каля 800 мільёнаў долараў, накіраваная на падрыў рэжыму братоў Кастра. Іншымі словамі, градус халоднай вайны паміж Гаванай і Вашынгтонам трошкі знізіўся, аднак супрацьстаянне будзе працягвацца.

# Знявечаныя лёсы жыхароў Брэста

Прапануем другі нарыс, напісаны на аснове матэрыялаў з зачыненых зараз архіваў. Нагадаем, што гэтыя матэрыялы аўтар збірала ў сярэдзіне 1990-х гадоў. Пры гэтым яе папярэдзілі, што матэрыялы нельга выкарыстоўваць у дакументальных творах, пакуль не пройдзе тэрмін захоўвання тайны. Гэты тэрмін скончыўся. Першы нарыс можна прачытаць у №11.



Брэсцкія харцэры

## Наіўныя патрыёты

Зінаіда ДУДЗЮК

**Многія маладыя жыхары Заходняй Беларусі з-за юначай адкрытасці, упартасці і самаўпэўненасці нават не спрабавалі хаваць сваіх варожых адносін да савецкай улады.**

Такім быў Стэфан Аленскі, вучань дзявятага класа школы №21, арыштаваны 18 лютага 1940 года. Бацька Аленскага Ігнат працаваў слесарам на чыгунцы, маці Караліна была хатняй гаспадыняй, у сям'і быў яшчэ малодшы сын Генрых, якому на той час споўнілася 14 гадоў.

Стэфан нарадзіўся 26 чэрвеня 1922 года, у 1928 годзе пачаў вучыцца ў гарадской школе, у 1934-м паступіў у гімназію, якую скончыў у 1939 годзе. Аднак польская адукацыя лічылася горшай за савецкую, таму пасля ўстанаўлення новай улады юнак вымушаны быў паступіць зноў у 9-ы клас школы №21, каб яшчэ раз атрымаць атэстат сталасці (ужо савецкі), што, безумоўна, не выклікала ў яго захаплення.

Пра сябе Стэфан Аленскі шчыра і не без гонару расказаў следчаму, што з 1928 да 1939 года ў розны час з'яўляўся сябрам розных польскіх моладзевых арганізацый, як, напрыклад, «Ліга марская і каланіяльная», ЛОП — Таварыства супрацьпаветранай і хімічнай абароны, ПЕВУ — арганізацыі, якая здзяйсняла вайсковую падрыхтоўку юнакоў прызыўнога ўзросту. Гэтага было дастаткова, каб прызнаць арыштаванага вінаватым у тым, што ён уваходзіў у склад шэрагу польскіх нацыяналістычны арганізацый. Становішча значна пагоршыла знойдзеная ў хлопца брашура, у якой адшукалі паклёп на Камуністычную партыю Савецкага Саюза.

Справу №58018 па абвінавачванні Аленскага накіравалі на разгляд «Особого Совещания при НКВД СССР». У выпісцы з пратакола №132 ад 19 кастрычніка 1940 года значыцца, што Аленскага Стэфана Ігнатавіча за ўдзел у антысавецкіх паўстанцкіх арганізацыях належыць змясціць у папраўча-працоўны лагер тэрмінам на 8 гадоў.

Такі ж самы лёс напаткаў навучэнца чыгуначнага тэхнікума (тэхнічнай школы) Януша Снятынскага, бацька якога пры Польшчы працаваў гмінным пісарам, але з 1933 года быў у разводзе з жонкай. Бабуля Кунігунда Снятынская ўтрымлівала краму ў Варшаве, адзін дзядзька арыштаванага, Асталоўскі Ігнат, быў доктарам, другі — Снятынскі Генрых — касірам на чыгуначнай станцыі ў Цярэспалі, што, па перакананнях следчых органаў, паказвала на прыналежнасць юнака да багацеяў.

Януш чыстасардэчна прызнаўся следчаму: «Я доўга думаў пра разгром польскай дзяржавы. У час вучобы ў тэхнічнай школе я пагутарыў пра гэта са студэнтам чацвёртага курса Скіндзерам. Ён падзяляў маё меркаванне, што Польшча павінна існаваць, і мы, палякі, абавязаны гэтаму садзейнічаць. У мяне склалася ўражанне, што Польшчы дапамогуць Францыя і Англія. Я і цяпер не губляю надзеі на аднаўленне Польшчы. Я і Скіндзер з'яўляемся кіраўнікамі. Астатнія працуюць па прынцыпе дзясяткі. Мэта арганізацыі — узброенае паўстанне і аднаўленне польскай дзяржавы. Мною і Скіндзерам напісана прысяга: «Я прысягаю Богам і Айчынаю, што буду захоўваць таямніцы нашай арганізацыі».

У хуткім часе былі арыштаваныя ўсе тыя хлопцы, якіх Януш назваў. Прысуд быў вынесены 9–11 ліпеня 1940 года, студэнты праходзілі цэлым спісам.

Судовая калегія па крымінальных справах Брэсцкага абласнога суда ў складзе старшыні абласнога суда Рагуновіча, народных засядацеляў Рашкевіча і Рабінава, пры сакратары Куцэвіч, з удзелам пракурора Эстэркіна, абаронцаў Акулава і Зайцава праслухалі і разгледзелі на закрытым пасяджэнні крымінальную справу па абвінавачванні Снятынскага Януша, Струшэўскага Эдварда, Ванцкевіча Стэфана, Гурскага Іосіфа, Пякарскага Аляксандра, Окуня Мар'яна, Енджэйчыка Леанарда, Ястржынскага Яна, Мушынскага Яўгена, Мігдальскага Юрыя, Мігдальскага Здзіслава, Рыбака Тадэвуша, Мальчэўскага Чэслава, Віткоўскага Багуміла, Капала Леха. Усіх абвінавацілі ў злачынстве, прадугледжаным артыкуламі № 64 і 75 КК БССР.

Выпіска з прысуду сведчыць: «Улічваючы малады ўзрост, пазбавіць волі ў аддаленых месцах СССР тэрмінам на 10(8) гадоў, ад канфіскацыі маёмасці вызваліць, бо такой яны не маюць. Пасля адбыцця пакарання пазбавіць усіх палітычных правоў тэрмінам на 5 гадоў. Залічыць папярэдні тэрмін пад вартай з 23.02.40 года».

Сучаснікам цяжка ўявіць, якія пакуты выпалі на долю асуджаных хлопцаў, а калі дадаць да гэтага гора бацькоў, што гублялі дзяцей, нічога не ведаючы пра іхні далейшы лёс, ды смутак і страх братоў, сясцёр і іншых родзічаў, вымушаных жыць з гэтымі горкімі пачуццямі, дык узнікае вельмі не простая карціна міжваеннага жыцця асобных жыхароў Брэста.



Брэсцкая крэпасць

Характэрным для памежнага Брэста падаўся мне і матэрыял, які датычыўся допыту Крэнца Яна Янавіча, датаваны 15 красавіка 1940 года. Ён прызнаваўся:

«За перыяд з верасня 1939 года да сакавіка 1940 года я нелегальна пераходзіў праз дзяржаўную мяжу СССР на тэрыторыі былой Польшчы, занятай немцамі, сем разоў. Усе пераходы былі ў раёне Беластока і Брэста, у тым ліку два пераходы каля станцыі Зарэмба Касцельная (за 80 км ад Беластока), астатнія — каля крэпасці ў Брэсце. Першы раз пераходзіў мяжу ў раёне станцыі Зарэмба Касцельная з мэтаю кантрабанды ў Варшаву, дзе купіў тады швэдры, гадзіннікі, пальчаткі і іншае на суму 75 злотых, было гэта ў кастрычніку 1939 года. Другі раз у лістападзе я купіў рэчы на 130 ці 140 злотых. У снежні 1939 набраў тавараў на 300 злотых. У ноч пад Новы год перайшоў мяжу ў крэпасці, купіў у Варшаве на 350–400 злотых мужчынскі гарнітур, паўкілаграма сахарыну, вечны ручны гадзіннік. У студзені 1940 года купіў тавараў на 400 злотых — скуру і боты, гадзіннікі, гарнітур, яшчэ нейкую дробязь. У лютым 1940 зрабіў закуп на 600 злотых. Пераходзіў раку Буг па лёдзе, апошні раз — на лыжах, усе прывезеныя рэчы прадаваў у Брэсце на рынку.

У сакавіку 1940 года паехаў у Варшаву на Бельведэрскую вуліцу, дом 4, кв. 17, каб сустрэць інжынера Шчуку, які раней працаваў інжынерам-архітэктарам у Брэсце і ўваходзіў у польскі штаб, падтрымліваў сувязь з контррэвалюцыйнай арганізацыяй. Пасылаў мяне туды мой былы інструктар планернай справы Грэйм Аляксандр. Аднак Шчука перад маім прыходам выехаў у Аўстрыю...

У сярэдзіне лютага я наведаў кватэру брата Грэйма, былога афіцэра, які цяпер знаходзіцца ў палоне ў СССР, а там (вул. Акольнік, д.5, кв. 8) цяпер жыве ягоная жонка і яе сястра з мужам. У гэты раз я сустрэў там Грэйма Аляксандра, які таксама нелегальна перайшоў мяжу і казаў, што ў Варшаве існуе падпольны польскі штаб, які падтрымлівае сувязь з замежжам. Казаў, быццам прыйшоў чалавек з Венгрыі і прывёс інструкцыю. У Брэст будуць перададзены 4 каратказхвалевыя перадатчыкі, бо іх цяпер толькі два. Паведаміў, што набыў пропуск ад гестапа для пераходу мяжы на тэрыторыю СССР. З размовы з Грэймам я прыйшоў да высновы, што ён з'яўляецца былым агентам польскай «Двуйкі», бо ведае шмат каго з яе членаў і пра яе працу, якім спосабам выяўлялі і лавілі камуністаў у Брэсце. Грэйм жыў у Брэсце на вул. Дамброўскага, дом 4, кв. 5. Мой сябар Гжэгжулка Лёлек 18 сакавіка 1940 года ў кавярні Шапіра ў Брэсце казаў, што яму трэба пераправіць пакунак у Варшаву, але з-за таго, што сувязны Яшэмскі быў арыштаваны, я прапанаваў свае паслугі. Гэта я зрабіў знарок, каб заслужыць давер і атрымаць адрасы ў Варшаве. Я ненавіджу Германію. Хачу ўзарваць мост праз Буг і спыніць сувязь паміж СССР і Германіяй, каб у апошнюю не ішла сыравіна і іншыя тавары. Праз некалькі дзён пасля майго вяртання з Варшавы я быў арыштаваны з кантрабандным таварам нарадам памежнай аховы Брэсцкага памежнага атрада».

Трэба, аднак, адзначыць, што даваенныя прысуды ў дачыненні да жыхароў Заходняй Беларусі былі значна мякчэйшыя, чым на ўсходняй частцы. Такім чынам савецкая ўлада, з аднаго боку, хацела паказацца нібыта справядлівай, а з другога — пазбягала масавых пратэстаў.

# Час Льва Бакста

Сяргей ГВАЗДЗЁЎ

**Сентэнцыю аб тым, што крызісныя часіны ў грамадстве спрыяюць творчым усплёскам і паскарэнню культурніцкіх ініцыятыў, ілюструе дзейнасць Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі.**

Не паспелі наведвальнікі «апрытомнець» ад эстэтычнага шоку, які перажылі пасля выставы друкаванай графікі Гоя ды Пікасо — майстроў, якіх згадваюць разам з Рэмбрандтам і Дзюрэрам, а творчасць раскрывае глыбіні духу іспанскага народа, як — новая імпрэза: «Час і творчасць Льва Бакста (1866–1924)»!

Выстава мастака-жывапісца, ілюстратара ды рэвалюцыянера ў галіне тэатральнай сцэнаграфіі, чый 150-гадовы юбілей адзначаецца сёлета рашэннем 38-й сесіі ЮНЕСКА. Падзея адметная яшчэ і таму, што, апрача надзвычайных мастацкіх здольнасцяў, Л. Бакст паходзіў з былых земляў Вялікага Княства — нарадзіўся ў беларускай Гародні.

Выстава з'яўляецца часткай міжнароднага праекта, які будзе працягнуты ў Віленскай карціннай галерэі, у мастацкім музеі «Рыжская біржа» і Новым Замку ў Гародні-Гродна, а яе суарганізатар — ста́лы дабрадзей культуры ААТ «Белгазпрамбанк».

## Водар часу

Мастацкія гурманы, паланёныя духам паэтычнай атмасферы Арсена Таркоўскага, спазнаўшыя чаруюча-зіхоткія паўтоны і водсветы фарбаў мастацтва «срэбранага веку», патрапяць у нірвану.

У экспазіцыі — і каля 250 працаў сучаснікаў ды паплечнікаў Л. Бакста, як кажуць сёння — «топавыя» мастакі групоўкі «Свет мастацтва», заснавальнікам (1898) і ўдзельнікам якой быў Бакст, паводле выказвання Зінаіды Гіпіус — «художник умной души». Аляксандр Бенуа і Міхаіл Врубель, Аляксандр Галавін і Міхаіл Дабужынскі, Станіслаў Жукоўскі і Ісак Левітан… Усіх і не пералічыць.

Упершыню ў Беларусі можна пабачыць празрыста-музычныя акварэлі Максіміліяна Валошына, не экспанаваныя раней творы Канстанціна Багаеўскага і Кузьмы Пятрова-Водкіна, а таксама касмаганічна-таямнічыя творы мастака і кампазітара Мікалоюса-Кастукаса Чурлёніса.

Пачуцці беларусаў будуць усцешаныя работамі мала вядомага ўраджэнца Віцебска Рыгора Баброўскага (1873–1942). «Новым імем» стане і бліскучы мастак-партрэтыст Савелій Абрамавіч Сорын (1878–1953) з Полацка.

Немагчыма ўявіць, што наведвальнік выставы застанецца абыякавым да экспануемых (зноў жа — упершыню!) акварэляў — дакументальна-мастацкіх краявідаў Гародні часоў нараджэння юбіляра. Выкананыя яны ліцвінскім мастаком і кампазітарам, удзельнікам паўстання 1831 года Напалеонам Ордаю пасля яго вяртання з Парыжа.


«Рыбак з курыльнай трубкай» (1890)

## Шлях

Колькі згадак пра радавод і станаўленне «рускага ці габрэйскага мастака з Беларусі», які вучыўся ў пецярбургскай Імператарскай Акадэміі мастацтваў ды ў студыях Ж.-Л. Жэрома, акадэміі Р. Жульена і ў А. Эдэльфельда ў Парыжы.

Нарадзіўся Лейба-Хаім Розенберг у 1866 годзе ў сям'і патомнага ганаровага грамадзяніна Гародні Ізраіля Самуіла Баруха Рабіновіча і Басі Розенберг. Бакст — псеўданім, утвораны ад дзявоцкага прозвішча бабулі — Бакстэр. (Паводле меркавання ізраільскіх анамастаў, псеўданім паходзіць ад назвы мястэчка Бакшты, дзе было іх «родавае гняздо»). Неўзабаве сям'я перабралася ў Санкт-Пецярбург, дзе па заканчэнні класічнай гімназіі з парады скульптара Марка Анатакольскага (1843–1902) будучы мастак стаў вольным слухачом Імператарскай Акадэміі мастацтваў.

Дзіву даешся творчаму спрыту і прагнасці да жыцця бяскрыўднага і ўсмешлівага «Лёвіка». За зманлівай знешнасцю нязграбнага «бataніка» хавалася натура моцная і ўпартая, прагная да ведаў і новых досведаў. Ён наведвае «Пецярбургскую майстэрню гульняў і навучальных дапаможнікаў» пісьменніка А. Канаева, ілюструе кніжкі для дзяцей, піша партрэты, выконвае замовы царскай сям'і, займаецца маляваннем з «венцаноснымі» нашчадкамі. Дае ўрокі акварэлі барону Бенкендорфу. Супрацоўнічае з дзясяткам часопісаў. Выкладае (разам з Мсціславам Дабужынскім) у школе Званцавай, з якой «стартаваў» зямляк Марк Шагал…

Бакст не забываўся і на станковы жывапіс, ладзіў выставы, за што ў 1906 годзе атрымаў Ордэн Ганаровага Легіёна. Спрабаваў сілы ў тэатры: рабіў сцэнаграфію для прыватнай антрэпрызы Іды Рубінштэйн, а потым для тэатра Веры Камісаржэўскай.

## Экспазіцыя юбіляра

Яна пачынаецца з найвыразнейшага мастацкага акцэнту — акварэлі «Рыбак з курыльнай трубкай» (1890) (твор набыты Белгазпрамбанкам у калекцыю на брытанскім аўкцыёне). Усе без выключэння працы майстра вельмі цікавыя і адметныя, але найперш уражвае «дыямент» другой залы — «Купальшчыкі на Лідо. Венецыя». Гэта адзін з нешматлікіх маляўнічых твораў у экспазіцыі (большасць жывапісных прац майстра захоўваецца ў ЗША і Санкт-Пецярбургу). Карціна была створана, калі мастак адпачываў ад парыжскага «балетнага» трыумфу. Бліскучая, нязмушана-лёгкая кампазіцыя (з намёкам на дзіцячае «няўмельства»), зробленая ў рэалістычнай манеры, запамінаецца выключным спалучэннем колераў, якія трапна перадаюць адчуванне спякотна-бесклапотнага дня на італійскім узбярэжжы.

З амаль сарака твораў юбіляра (выкананых у розных жанрах і тэхніках, ад жывапісу і графікі да тэатральных эскізаў) сем — уласнасць калекцыі Белгазпрамбанка. Некалькі літаграфій належаць Нацыянальнаму мастацкаму музею Беларусі.

## Жыццё ў тэатры

Сапраўдным апафеозам мастака стала яго супраца з балетнымі антрэпрызамі Сяргея Дзягілева. Арганічна глядзяцца ў экспазіцыі (рарытэты!) тэатральныя афішы Жана Както — паэта, драматурга, мастака і кінарэжысёра, аўтара першага «сюррэалістычнага спектакля» (сябра Сяргея Дзягілева). Менавіта «Рускія сезоны» трывала замацавалі моду і попыт на «экспартнага» майстра, які запачаткаваў традыцыю публічнага паказу тэатральных прац на выставах. Прыгожыя эскізы касцюмаў, накіды і распрацоўкі тэатральных дэкарацый таксама прадстаўленыя ў экспазіцыі.

Эскізы і сцэнаграфія Л. Бакста выстаўляліся ў Луўры, а жывапісныя палотны каштавалі даражэй за Мацiса ды Пікасо. Парыжскія да́мы замаўлялі яму ўзоры вытанчаных строяў. Паводле распрацаваных ім эскізаў выраблялася тканіна ў Еўропе і Амерыцы. (У экспазіцыі дэманструюцца сцэнічныя хітоны і тунікі, выкананыя паводле эскізаў мастака, якія падкрэсліваюць характары дзеючых асобаў.) Касцюмы стылёва пераймалі «новае мастацтва» ў яго «флярэальнай» ці дэкаратыўна-арнаментальнай адметнасці, эталонна спалучалі эротыку і густ і былі народжаныя ў заможных Францыі ды Бельгіі. Мастацкія пошукі і знаходкі Л. Бакст прыстасоўваў да практычных патрэбаў (распрацоўваў дызайн не толькі верхняй вопраткі, але і аксесуараў (капялюшыкаў, абутку), думаў наконт уласнай лініі парфумы. Мастацтвазнаўца Алена Тэркель, абапіраючыся на ўспаміны мастака-себарыта, адзначае, што новае і прыгожае адзенне надавала яму выключны настрой.

## Пад заслону

Разнастайная, паслядоўная і цэласная па форме экспазіцыя тэхнічна, эстэтычна і матэрыяльна самадастатковая. Але не стала лішнім і суправаджэнне яе грунтоўным каталогам, аўдыёэкскурсіяй, якую распрацавала кампанія «ScienceSoft». Эксклюзіўныя таксама і інфармацыйныя дадаткі для мабільных прыстасаванняў (на платформах iOS, Android, Windows Mobile). Калі ж да ўсяго гэтага дадаць працяглую рэкламную кампанію ў СМІ і віртуальнай прасторы ды адмыслова наладжаную працу кінаклуба з дэманстрацыяй мастацкіх стужак пра эпоху мадэрну ды інтэлектуальную кульмінацыю мерапрыемства — прэзентацыю кнігі «Лев Бакст: Жизнь пером Жар-птицы», якую напісаў апякун выставы (аўтар ідэі і канцэпцыі) Уладзімір Шчасны, дык «аб лепшым можна толькі марыць…»

Развітваючыся з гасціннымі і нават люднымі заламі музея, усведамляеш: выстава атрымалася! Зніклі невялічкія калейкі ў музей (!) па серадах, аціхла актыўная рэкламная кампанія, юбілей мінуў… Усё прайшло «адпаведна задуманай і дакладна выверанай канцэпцыі». Пакідаючы залы музея, разам з удзячнасцю арганізатарам у душы застаюцца роспач і здзіўленне. Бо мастацтва большае за гульню вобразаў і фарбаў, яно самадастатковае. Пакутнае і ўсцешнае, загадкавае і дасціпнае, яно большае за тэатр, і нават большае за жыццё самога мастака…

## Некалькі «несвоечасовых» думак

У скрутныя часы ўсеагульнага крызісу актуалізуюцца праблемы беларускай культуры, яе далейшага гартавання: мовы, нацыянальнай ідэі, выяўленчага мастацтва ды маральных (хрысціянскіх) каштоўнасцяў — падмурка, на якім грунтуецца ферментная рошчына менталітэту грамадства, «светагляду народа», ад стану якога не менш, чым ад эканомікі і «дабрабыту» залежыць будучыня краіны. Нездарма 2016 год абвешчаны «Годам культуры».

Высілкі музеяў па «збіральна-асветнай» працы паспяховыя не напоўніцу. Значная частка мастацкай спадчыны (тая, што вызначае нашу этнічную ідэнтычнасць) не толькі мала знаёмая шырокаму гледачу, але і большасці спецыялістаў. Дзяржава (Мінкульт) пры ўсім сваім жаданні не ў стане адкрыць «неспазнаны кантынент» гісторыі, культуры і мастацкай спадчыны, які мае агульнае найменне — «Віленская школа».

Не надта запатрабаваная для сучаснай Літвы і не прыдатная для Рэчы Паспалітай пасля ўсталявання ўласнай дзяржаўнасці тэма беларускай прысутнасці ў межах «Віленскай школы» не толькі «паліткарэктная», але і актуальная, бо гістарычна адлюстроўвае мастацкую прысутнасць беларусаў у агульнаеўрапейскай прасторы.

Фактычна «рэпрэсаваная яшчэ ў 40-я гады», школа прадстаўленая шэрагам творцаў «заходнебеларускай» плыні: Міхась Сеўрук (1905–1979), Пётра Паўлючук (1900–1990), Аляксандр Лазіцкі (1903–1990), Пятро Жынгель (1898–1983), Язэп Горыд (1896–1939), Леў Дабржынскі (1907–1937), Кузьма Чурыла (1908–1951), Валянцін Рамановіч (1907–1944), Зміцер Крачкоўскі (1910–1983) і іншыя. Творчасць іх, невядомых на Радзіме, ацэнена ў сумежных краінах: Літве, Чэхіі, Польшчы, Расіі.

На жаль, не лепшая сітуацыя і са спадчынай «ліцвінскіх мастакоў» XIX стагоддзя, якіх вярнуў у духоўна-мастацкі і інтэлектуальны ўжытак яшчэ св. памяці Леанід Дробаў (1926–2002)…

Беларусь чакаюць новыя адкрыцці, і сярод іх — мастацкі праект «Шляхецкія Сядзібы». Першыя крокі ўжо зробленыя. Белгазпрамбанкам набытыя некаторыя творы да будучых выстаў: «Партрэт Тамаша Зана» Валенція Ваньковіча, «Краявід. Вілія» і «Пуня і азярод» Фердынанда Рушчыца, «Адліга. Белавежская пушча, 1935 г.» Станіслава Жукоўскага.

…Некалі Леў Талстой, пабачыўшы выяву славутага Рэрыхаўскага дыплома «Ганец», параіў мастаку, «каб даплысць, заўжды браць вышэй» і ў ма́рах, і ў мэтах, і ў мастацкіх патрабаваннях, і ў маральных апірышчах. Падобным «маральным апірышчам» нам уяўляецца прызабытае, «рэпрэсаванае» заходнебеларускае мастацтва — гуманістычная спадчына «Віленскай школы».




# Лявон Вольскі збірае сродкі

**Рок-легенда Беларусі звярнуўся да прыхільнікаў і сяброў з заклікам дапамагчы ў стварэнні другой часткі альбома «Грамадазнаўства». Ужо сабрана палова ад неабходнай сумы.**

Гэты альбом, паводле шматлікіх меркаванняў, стаўся адным з лепшых запісаў у дыскаграфіі музыкі.

«Дарагія сяброўкі, шаноўныя сябры! Вельмі рэдка я звяртаўся да вас па дапамогу, але цяпер акурат такі момант, калі гэта неабходна. Альбом «Hramadaznaŭstva. Volski», мне падаецца, патрабуе працягу. І час гэтага працягу надышоў. Ёсць усё — песні, задумы, крэатывы, віленская студыя Снорэ Бэргерга. Няма толькі фінансавага складніку працэсу, кажучы наўпрост — грошай. Вось так здараецца — раней неяк знаходзіліся, а цяпер — ну, ніяк. Хто колькі можа, мы будзем удзячныя ўсім за любую дапамогу! Бо талака — вялікая сіла, з яе дапамогай можна і вёску збудаваць, і альбомам народ парадаваць. І гэта будзе наш з вамі агульны альбом, там будзе часцінка кожнага, хто дапамог у ягоным стварэнні. Загадзя дзякую і спадзяюся на разуменне і дапамогу!»

Альбом «Грамадазнаўства» атрымаў узнагароду «Альбом года» на музычнай прэміі Rock Profi (па галасах беларускіх музыкаў) і быў намінаваны на «Лепшы рок-альбом» і «Лепшы беларускамоўны альбом» паводле прэміі Experty.by.

Разам са стартам кампаніі адбылася прэм'ера відэаканцэрта «Вільня. Воля. Вольскі», знятага падчас канцэртнай прэзентацыі першай часткі «Грамадазнаўства» ў кастрычніку 2014 года. Падтрымаць праект можна праз сайт www.lavonvolski.com.

# Прыгоды «шведкі» ў Мінску

Фаіна НАКАНЕЧНАЯ

**Ці ведае беларуская моладзь замежныя мовы ці можа вольна камунікаваць з іншаземцамі? Каб адказаць на гэта пытанне, я вырашыла правесці эксперымент і пераўвасобілася ў вобраз маладой шведкі, якая паступіла ў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт і прыехала ў беларускую сталіцу вучыцца.**



Фаіна Наканечная, шведка ў Мінску

Спачатку я вырашыла запытацца пра дарогу да Галоўнага корпуса БДУ ля факультэта міжнародны адносін. Студэнты траплялся занятыя і напружаныя. Кожны другі казаў: «Прабачце, я спяшаюся» або паказваў рукой да будынка галоўнага корпуса: «Вунь там». Праўда, па-англійску.

Пасля гадзіны блукання па тэрыторыі Галоўнага корпусу хацелася паесці і пагрэцца, і я ўжо марыла скончыць эксперымент. І тут да мяне падышоў студэнт. Паліто, шалік, акуляры, сур'ёзны выгляд — усё як мае быць. Было відаць, што ён з зацікаўленасцю слухаў, як я размаўляла са студэнтамі, бо без ніякіх замінак ён наблізіўся і спытаў:

— А адкуль ты?

— Я са Швецыі, горад Кальмар. (У 2014 годзе я сапраўды вучылася і працавала ў гэтым невялічкім горадзе на поўдні Швецыі, таму расказала б шмат чаго цікавага).

— А, вось чаму мне англійская твая дзіўнай падалася... А па якой ты праграме сюды прыехала?

— Па «Erasmus плюс» для магістрантаў.

— Дзіўна. Я чуў аб абмене для беларускіх студэнтаў. Аб шведах ніякай інфармацыі не было. А то ведаеш, у нас на сайце заўсёды з'яўляецца навіна, што патрабуецца куратар для замежных студэнтаў. Разбіраюць іх як гарачыя піражкі.

— «Як гарачыя піражкі?» — раблю дурны твар і перапытваю я.

— А, ну ў сэнсе, вельмі гэта цікава для студэнтаў беларускіх. Пазнаёміцца са студэнтамі, пасябраваць, а яшчэ плюс для ўніверсітэту і для цябе невялікая надбаўка да стыпендыі.

Таму і цікавяцца такія студэнты праграмай некрэдытнай мабільнасці «Erasmus плюс», дарэчы, першай для студэнтаў БДУ ў Беларусі.

У «Erasmus плюс» было прадугледжана 12 месцаў для студэнтаў, 15 — для магістрантаў, 3 — для аспірантаў і 22 месцы для супрацоўнікаў і выкладчыкаў БДУ. Толькі ад студэнтаў было пададзена 106 заявак. Прапаноўваліся месцы ва ўніверсітэтах Румыніі, Іспаніі, Эстоніі, Польшчы, Славакіі, Чэхіі, Германіі, Швецыі, Францыі.

Але вернемся да эксперыменту. Наступным пунктам, дзе я спрабавала запытацца пра дарогу да галоўнага корпусу БДУ быў раён станцый метро Кастрычніцкая–Купалаўская.

Студэнты ж траплялся розныя. У асноўным, спачуваючыя і разумеючыя. Адны малявалі карту, іншыя адчынялі гугл-перакладчык. Так што ў прынцыпе дарогу знайсці было магчыма.

Пасля з тым жа пытаннем я пайшла да студэнцкіх інтэрнатаў, што каля станцыі метро Першамайская.

«Я вучуся ў каледжы, і ў мяне нямецкая мова. Вы бачайце», — вінавата адказала па-руску дзяўчына, якая паліла каля інтэрната №6.

«Мы ж таксама замежныя студэнты!» — гаварылі па-брацэрску кітайцы і афрыканцы і дзяліліся ўражаннямі ад жыцця ў Беларусі.

— Ведаеш, нават цяжка кудысьці паехаць і пабачыць Беларусь, — дзеліцца цемнаскурая дзяўчына.

— А чаму так? — пытаюся, бо мне сапраўды цікава.

— Нікому не магу патэлефанаваць з групы, бо ўсе з Мінску, і мяне ніхто не разумее. Нават хатняе заданне цяжка запытаць.

Дык чаму ж значная частка маладзёнаў не ведае замежных моў? Такое пытанне я задала Іллі Карусейчыку, аднаму з заснавальнікаў размоўнага клуба Student English Club.

«Я меў зносіны з людзьмі з дзясяткаў еўрапейскіх краін, і мала дзе колькасць гадзін англійскай мовы ў школах значна больш, чым у нас. Мабыць, вінавата састарэлая савецкая методыка навучання, у прыватнасці, недахоп гутарковай практыкі. Мне цяжка меркаваць, як вырашыць гэтую праблему, але яе наяўнасць відавочная», — разважае Ілля.

Што атрымліваецца? Замежных студэнтаў хапае, міжнародныя праграмы накшталт «Erasmus плюс» дзейнічаюць. У 2016 годзе ў Мінску будуць працаваць не менш чым 20 размоўных клубаў для аматараў толькі адной англійскай мовы. Але чамусьці беларускіх студэнтаў, якія ведаюць замежную мову, не становіцца больш. Чаму?







Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
**Колб Аксана Мікалаеўна**
Стыль-рэдактар
**Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51,
novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 302

Падпісана да друку 1. 04.2016. 8.00.
Наклад 5000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.